

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 29 (13561)

13 — 19 ліпеня 1992 года

Кошт 3 рублі.

У НУМАРЫ:



## Ты не чытаў "Нотны аркуш"? Дарма!




200!




Сёння мы друкуем юбілейны, 200-ы музычны выпуск "Чырвонай змены". Гэта ўжо нямала. У "Нотным аркушы" знайшла адлюстраванне практычна ўся гісторыя сучаснай беларускай рок-музыкі і бардаўскай песні. У ім публікавалася энцыклапедычная інфармацыя пра развіццё іншых музычных жанраў у Беларусі, на Захадзе ды Усходзе. Меламаны ўпадабалі і постары "Нотнага аркуша". Сёння "Чырвонка" прадстаўляе 50-ы па ліку плакат "Нотнага аркуша". Такім чынам, у беларускіх фанаў сёння двайное свята.

## ЦІ ПАТРЭБНЫ ХРЫСТУ АПЛАДЫСМЕНТЫ?

Чатыры спякотныя ліпеньскія дні мінскі стадыён "Дынама" слухаў канадскага евангеліста Пітэра Юнгрэна. Яшчэ за месяц да таго ўвесь горад аказаўся заклееным сінімі афішамі, з якіх можна было даведацца, што пасля сустрэчы са спадаром Юнгрэнам сляпыя бачаць, глухія чуюць, а тыя, хто да гэтага ездзіў выключна на інвалідпай калясцы, ідуць дахаты на сваіх нагах.

Ніколі стадыён "Дынама" не бачыў такога аншлага. На маёй памяці такое было толькі адзін раз, калі тагачасны чэмпіён СССР па футболу "Дынама" (Мінск) сустракаўся са сваімі аднаклубнікамі з Кіева. Амаль 50 тысяч чалавек, сярод якіх былі тысячы, калі не дзесяткі тысяч, інвалідаў, спадзяваліся, што Ісус Хрыстос праз свайго прапаведніка Пітэра Юнгрэна вылечыць іхнія хваробы. Ці дачакаліся?

Я не буду засяроджваць увагу чытача на тым, як праходзіла імпрэза, якую сам евангеліст называў набажэнствам. Скажу толькі, што на набажэнства ў нашым разуменні – у разуменні праваслаўных хрысціян, ды і вернікаў іншых канфесій – усё, што адбывалася на стадыёне, было не падобна. Не падобна настолькі, наколькі набажэнства шамана адрозніваецца ад праваслаўнай службы. Пітэр Юнгрэн заклінаў духаў слепаты, нематы і глухаты пакінуць тых, хто прыкладзе да хворага органа далонь і разам з евангелістам памоліцца Госпаду. Ды яшчэ выразы накшталт "давайце паапладзіруем Хрысту"... Я да гэтага часу не магу зразумець, як тысячы людзей, якія пасля заканчэння так званага "набажэнства" ледзьве не пляваліся, пад час яго маглі, быццам зачараваныя, раскачвацца з паднятымі рукамі, а на запыт "лекара", каму стала лягчэй, падымаць рукі... Скажу толькі, што столькі блюзнерстваў, колькі прыйшлося мне выслухаць, стоячы ля выхаду са стадыёна, я ніколі не чуў.

Дзесяткі інвалідных калясак. Сотні старых з кіёчкамі. Тысячы блізарукіх, глухіх ішлі да Юнгрэна з надзеяй. Ён ім не дапамог. Праўда, выходзілі да мікрафона нейкія людзі, сцвярджалі, што іх стан здароўя палепшыўся. Вось толькі ніхто з іх чамусьці не захацеў адказаць на мае пытанні...

Дык чаму ж не дапамог Юнгрэн дзесяткам тысяч хворых? Можа, справа ў адсутнасці веры, сапраўднай, шчырай веры ў Госпада нашага Ісуса Хрыста? Можа, і так. Навуцы вядомыя выпадкі, калі святары маглі вылечваць пэўныя захворванні, пераважна псіхічныя. Нават сляпыя, якія страчвалі зрок не ў выпадку арганічных паражэнняў, а з-за стрэсу, маглі спадзявацца на вяртанне зроку. Адважваюся сцвярджаць, што такое могуць рабіць не толькі святары, але і звычайныя таленавітыя псіхатэрапеўты. Я бачу вялікі грэх у тым, што дзякуючы "дапамозе" Пітэра Юнгрэна тысячы людзей не толькі не падмацавалі сваю веру ў Хрыста, але і, наадварот, зерне веры, якое магло прарасці ў душах людзей, загінула.

Ісус абяцае нам Вечнасць. Паводле сцвярджэнняў нашай рэлігіі, пакуты робяць чалавека бліжэйшым да дасягнення выратавання, але калі гэта пакуты ў імя Госпада. Якая ж можа быць больш страшная пакута, чым страта веры, надзеі? Дапамагаючы адзінкам, юнгрэны, кашпіроўскія і падобныя да іх дзеячы заводзяць у тупік тысячы людзей. Дык што ж лепей? Збіраць поўныя стадыёны людзей, якія ў будучым расчаруюцца, альбо проста прымаць кожнага хворага ў ціхім утульным кабінеце, дзе добрае слова чалавека, слова веры, натхнёнае Госпадам, сапраўды дапаможа, зніме боль, супакоіць? Манія велічы – рэч страшная. У гэтым я пераканаўся...

Алесь ПАЛЫНСКІ.

## *Неруш*

### "СПЯКОТНЫЯ ДЗЯНЬКІ"

Ліпеньскае сонца ўсё часцей становіцца прычынай не толькі бронзавага загару абібокаў, што вылежваюцца на пляжах, але і пажараў у лясах і на тарфяніках. Як паведамілі ва ўпраўленні пажарнай бяспекі МУС рэспублікі, пажарамі ахоплены тэрыторыі агульнай плошчай каля 500-600 гектараў. Найбольш буйныя плошчы ахоплены агнём у Віцебскай вобласці: гэта торфараспрацоўкі ў Докшыцкім (каля 50 га) і Лёзненскім (каля 40 га) раёнах. Гараць тарфянікі ў Ляхавіцкім раёне, лясны масіў у Бярэзінскім лясніцтве. Акрамя таго, што пажар сам па сабе наносіць матэрыяльны ўрон, у 20 разоў павялічваецца радыяцыйны ўзровень на месцы здарэння, тым больш, што зусім незабруджаных радыенуклідамі тэрыторый у рэспубліцы амаль няма. Так вось за чалавечую нядбайнасць прыходзіцца расплачвацца, бадай, самымі каштоўнымі прыроднымі рэсурсамі, што мы маем. Спякотныя дзянькі настапі зараз для пажарнікаў. Галоўны ж іх саюзнік — дождж — пакуль што не спяшаецца.

### НАШЫ АЗЁРЫ НЕ ГОРШ ЗА МОРА

Маладыя нашы бізнесмены, якія паставілі сабе за мэту атрыманне мільённых прыбыткаў любымі сродкамі, памыляюцца. Для нармальнага чалавека грошы не могуць складаць сэнс жыцця. Гэта збіраецца даказаць толькі што створанае дабрачыннае сумеснае нямецка-беларускае прадпрыемства "Надзея". Яго заснавальнікамі выступілі фонд "Жыццё пасля Чарнобыля" і нямецкая арганізацыя "Лебэн нах Чарнобыль".

Прадпрыемства збіраецца арганізоўваць сучасныя базы адпачынку для дзяцей з забруджаных раёнаў менавіта ў Беларусі, у чыстых зонах, сярод лепшых азёр і лясоў. Для вытворчасці чыстых прадуктаў яно стварае фермы, рыхтуе спецыялістаў. Першую базу на Вілейскім вадасховішчы "Надзея" ўжо набыла і ўвосень мяркуе прыняць 200 адпачываючых.

— Для аздараўлення дзяцей з забруджанай зоны патрэбны не тыя 2—3 тыдні, на якія звычайна едуць адпачываць за мяжу, а 2—3 месяцы, — гаворыць кіраўнік СП "Надзея" Я.П.Пятраеў, — ды і колькі могуць яшчэ працягвацца тыя рэйсы за мяжу?.. Пяць, дзесяць год? Мы ж маем намер арганізоўваць тут, у Беларусі, медыцынскую, псіхалагічную рэабілітацыю дзяцей, экалагічнае і эстэтычнае выхаванне па спецыяльных праграмах з прыцягненнем выкладчыкаў лепшых ВНУ... Грошы ж на ўтрыманне дзяцей часткова будзе зарабляць наша СП, часткова іх будуць выдзяляць дзяржаўныя і дабрачынныя арганізацыі Беларусі і Германіі.

В.КУЛІК.

## *Нацыянальны архіў*

### "ЖЫЦЕНЬ" СПЯВАЕ ПА-ІТАЛЬЯНСКУ

У старажытнага беларускага бажка Жыценя пабольшала абавязкаў: з гэтага лета ён будзе гаспадаром не толькі хлебнай нівы, але і міжнароднага фальклорнага фестывалю. Пяць дзён, з 15 па 19 ліпеня, у гарадах і вёсках Мінскага раёна доўжыцца гэтае выдатнае свята народнага мастацтва. Для ўдзелу ў міжнародным фестывалі прыехалі фальклорныя ансамблі з Германіі, Італіі, Польшчы, Літвы, Рэспублікі Марый-Эл. Разам з імі выступаюць і тры беларускія калектывы: народны ансамбль песні і танца "Спадчына" з Маладзечна, фальклорны калектыў "Забава" з Вілейкі і дзіцячы калектыў "Жнейкі" з Міханавіч.

Галоўная падзея фестывалю — гала-канцэрт, які адбудзецца ў суботу, 18 ліпеня, у вёсцы Пятрышкі (чыгуначная станцыя "Радашковічы"). Пачатак канцэрта ў 18 гадзін. Там можна будзе не толькі пабачыць выступленні ўсіх запрошаных калектываў, але і набыць вырабы народных майстроў, што прывезлі з сабой госці.

"Сёння чалавек мае асаблівую патрэбу ў святце, нельга адлічваць грошы толькі на хлеб і ваду," — у гэтым пераканана прэзідэнт фестывалю, загадчык аддзела культуры Мінскага райвыканкама Руслана Леанідаўна Рэўт.

...Маленькі дзядок з доўгай сівою барадой — менавіта так уяўлялі нашыя продкі Жыценя — не толькі эмблема фестывалю, але і галоўны прыз. Яго сплёў з саломкі народны майстра Пётр Гатоўка з вёскі Урэчча, што на Вілейшчыне. І калі гаспадар поля ўпадабае свята, названае яго імем, ёсць надзея, што "Жыцень" будзе прыходзіць на нашую зямлю штогод.

В.ЕФІМЕНКА.

## *Стоп-факт*

### ДРУГОГА "АФГАНА" НЕ БУДЗЕ?..

Парламент Малдовы прыняў зварот да ўрадаў Расіі, Украіны, Беларусі, Балгарыі і Румыніі з просьбай накіраваць у Прыднястроўе свае вайсковыя кантынгенты для ўключэння іх у міратворчыя сілы для раздзялення ваюючых бакоў. Як заявіў прэм'ер-міністр Беларусі В.Ф.Кебіч на сустрэчы з журналістамі, што адбылася 8 ліпеня пасля "прамой лініі" з чытачамі газеты "Советская Белоруссия", з нашай рэспублікі ў раён канфлікту ніякія вайсковыя фарміраванні накіроўвацца не будуць. Вельмі хочацца верыць, што словы паважанага Вячаслава Францавіча гэта не толькі "бальзам на сэрца" расхвалляваным людзям.

### ВАШЫВАЯ АКУПАЦЫЯ

У апошні час пачасціліся паведамленні аб успышках педыкулёзу (ці, прасцей, вашывасці) у розных рэгіёнах СНД. У нас на Беларусі масавых паражэнняў насельніцтва пакуль што не зарэгістравана (тфу-тфу-тфу), але сказаць, што гэтай праблемы наогул не існуе, нельга.

— Пік заражэнняў педыкулёзам за апошнія пяць гадоў прыйшоўся на 1990 год, калі толькі па гораду Мінску было зарэгістравана 3315 дзяцей, у якіх знойдзены галаўныя вошы, — зазначае Таісія Дзмітрыеўна Плюцінская, загадчык педыкулёзнага аддзялення Мінскай гарадской санэпідэмстанцыі.

Як сведчыць статыстыка, на дзяцей да 14 гадоў прыходзіцца 80 працэнтаў штогод рэгіструемых у рэспубліцы выпадкаў галаўнога педыкулёзу. За пяць месяцаў бягучага года выяўлены 11 334 чалавекі, у якіх знойдзены галаўныя вошы, з іх 9053 — дзеці да 14 гадоў. У гарадскіх жыхароў педыкулёз выяўляецца ў 79,3 працэнта выпадкаў. Але гэта не азначае, што яны менш акуратныя за вясковых. Гэта ў першую чаргу паказвае на нізкую эфектыўнасць працы па барацьбе з педыкулёзам у вясковых мясцовасцях. Былі выпадкі, калі ў дзяцей знаходзілі вошай пасля таго, як медыцынскія работнікі ў школах здалі справаздачу аб адсутнасці педыкулёзу. Масавае распаўсюджанне педыкулёзу ў школах, ПТВ, дашкольных дзіцячых установах адбываецца з-за таго, што не захоўваюцца санітарна-гігіенічныя і супрацьэпідэмічныя правілы, з-за нізкага ўзроўню гігіенічных ведаў у школьнікаў і саміх педагогаў. Так, за прайшоўшы вучэбны год выяўлены галаўныя вошы ў 1174 школьнікаў г.Мінска. Па колькасці выпадкаў паражэння гэтай хваробай лідзіруюць Заводскі і Фрунзенскі раёны горада, адпаведна 262 і 250 чалавек.

— Трэба ўсё ж адзначыць, што гэтыя лічбы значна ніжэйшыя, чым 2 гады таму, — працягвае Т.Д.Плюцінская. — Але трывожыць і вось яшчэ што. Зарэгістравана некалькі выпадкаў заражэння адзежнымі вошамі. Знойдзены яны ў бомжаў. Нагадаю, што гэты від вошай, бадай, самы небяспечны, яны з'яўляюцца пераносчыкамі сыпнога тыфу і акопнай ліхаманкі, якая касіла людзей у гады вайны. Не хочацца прадстаўляць становішча такім жудасным, але і не закрываць жа вочы на гэтую праблему.

Сяргей ВІШНЕЎСКІ.

### ПРЫГАЖОСЦЬ ПРЫНОСІЦЬ ГРОШЫ

Рэкламнаму агенцтву Сашы Варламава крыху менш як год, але справы яго даволі хутка ідуць угору.

На мінулым тыдні шэсць беларускіх дзяўчат выехалі за мяжу для вучобы ў міжнароднай школе рэкламных мадэлей. Дзяўчыны будуць удзельнічаць у выступленні знакамітага спевака Майкла Джэксана ў Бухарэсце, фінансуюць якое фірмы "Пепсі-кола", "Мальбара", "Кэмел", "Левіс". Да таго ж з нашымі прыгожымі зямлячкамі італьянскія рэкламныя агенцтвы заключылі кантракты аб супрацоўніцтве на два гады.

А пераможца конкурсу "Міс супермадэль-92" у Беларусі Наташа Мазала пачне супрацоўніцтва з французскім рэкламным агенцтвам "Форд Модэлз" з верасня гэтага года.

### ДОРАГА І ПРЫГОЖА

Не многія мінчане ведаюць, што ў магазіне-салоне Беларускага цэнтра моды адкрылася секцыя па продажу штучных кветак, якія, дарэчы, выглядаюць як натуральныя. Такі магазін першы не толькі ў Мінску, але і на Беларусі.

Маленькія букецікі і вялікія дрэвы вытворчасці Кітая, Японіі і ФРГ кампануе і пастаўляе польская фірма "Ranimex". На жаль, сёння стаць пакупніком можа не кожны, бо прадукцыя прадаецца за даляры. У асноўным кліентамі магазіна з'яўляюцца фірмы, арганізацыі, якія маюць магчымасць закупіць для свайго офіса пальмы па 125-250 даляраў за адзінку. Асобныя грамадзяне купляюць невялікія букецікі ландышаў ці руж па цане 13-40 даляраў. Праўда, за мінулы тыдзень для прыватных кватэр былі набыты два дрэвы.

За першы месяц працы магазін выручыў каля 3,5 тыс. інвалютных рублёў.

Купіць гэтую прадукцыя хацелі б многія. Дырэкцыяй салона-магазіна Беларускага цэнтра моды вядуцца перагаворы з фірмай "Ranimex" аб продажы ў перспектыве часткі яе за рублі.

Жанна ПАЦЕЕНАК.

### "МІЛЬЁН ДОХЛЫХ ПАЛІЦАЯЎ"

21 ліпеня пашанцуе нашым аматарам року.

У гэты дзень у Палацы МТЗ мы атрымаем магчымасць пазнаёміцца з самым старым і самым "цяжкім" сярод усіх амерыканскіх панк-гуртоў — групай "Million of Dead Cops" ("Мільён дохлых паліцаяў").

Група ўзнікла ў 1980 годзе ў Тэхасе.

Музычны стыль і палітычныя погляды — радыкальна правыя. Апроч сваіх 650 шоу у больш чым 120 гарадах і 15 краінах, "MDC" прыняла ўдзел у турнэ "Рок супроць расізму".

Наведванні такіх гасцей дазваляюць спадзявацца, што падобныя акцыі зробяцца ў нашай рэспубліцы добрай традыцыяй.

В.КАЗЛОВА.

### ЭРОТЫКА — ДЗЕЦЯМ?

Як вядома, на апошняй сесіі Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў было прынята рашэнне "Аб мясцовых падатках і зборах". Згодна з гэтым рашэннем, за паказ эратычных відэафільмаў установлены дадатковы збор у памеры 10 працэнтаў з атрыманага прыбытку. Як паведамілі ва ўпраўленні фінансаў Мінгарсавета, гэтае рашэнне было выклікана павышэннем тарыфаў менавіта на паказ эратычных відэафільмаў, а значыць, і павелічэннем прыбыткаў прадпрымальнікаў. Выручаныя сродкі будуць накіроўвацца на добраўпарадкаванне садкоў, сацыяльныя патрэбы насельніцтва.

## КУР'ЕР ТЫДНЯ

*Аляксандр БАЛАШЭНКА, начальнік брокерскага аддзела фірмы "Эміна":*

– Нягледзячы на невялікі час існавання нашай фірмы, мы паспелі ўжо зрабіць нейкія вывады пра сучаснае эканамічнае становішча. Чаму рынучныя адносіны не прыносяць багацця тавараў і павышэння жыццёвага ўзроўню? Занялад эканомікі, палітычная нестабільнасць – гэта агульныя прычыны. Ёсць і больш вузкія праблемы, напрыклад, адсутнасць культуры бізнесу, якая ўзнікае з-за супярэчнасцей заканадаўства ў галіне камерцыйнай дзейнасці і слабасці судова-следчых органаў. Па сутнасці, сённяшняя дзяржава не з'яўляецца гарантам надзейнасці дагаворных адносін.

На Захадзе несумленнасць аднаго партнёра ў адносінах да другога абавязкова даводзіцца да агульнага ведама і з'яўляецца магутным стымулам для выканання абавязкаў. Стала неабходным стварыць штосьці такое і ў нас. Гэта можа быць і акцыянернае таварыства, створанае пры ўдзеле адной з вядучых бірж рэспублікі. Кожны яго член павінен мець доступ да банка даных аб усіх пагадненнях паміж бізнесменамі. На маю думку, гэта аздаровіць нашу рынучную эканоміку.

*Віталь ЛАКІЗА, намеснік старшыні рэспубліканскага дабрачыннага цэнтра маладзёжных ініцыятыў "Дапамога":*

– Наш цэнтр быў створаны студэнтамі юрфака БДУ яшчэ ў мінулым годзе. Мы цесна супрацоўнічаем з фондам "Дзеці Чарнобыля", з іншымі дабрачыннымі фондамі і арганізацыямі. 17 чалавек, членаў цэнтра, і мноства добраахвотных памочнікаў, займаюцца афармленнем розных дакументаў, у тым ліку і пры арганізацыі паездак за мяжу на адпачынак груп дзяцей-сірот і дзяцей, пацярпеўшых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Як правіла, работа, якую мы выконваем, самая карпатлівая і руцінная. Але мы, як дабрачынная арганізацыя, карыстаемся правам першачарговай падачы дакументаў, што дае магчымасць эканоміць час. Усе члены цэнтра – студэнты юрфака, таму працуем мы выключна на энтузіязме, калі нават не за свой кошт. Нягледзячы на жаданне, з якім хлопцы працуюць, мы не можам поўнасцю сябе рэалізаваць. Прычына ж да болю знаёмая – адсутнасць памяшкання. Мы маем права на адкрыццё розных прадпрыемстваў, але калі штосьці такое мы і адкрылі б, дык няма ж куды размясціцы! Выкупіць памяшканне нам не пад сілу, атрымаць нейкую плошчу ад дзяржаўных структур без хабару практычна немагчыма. У гэтым давялося пераканацца, абіваючы парогі розных інстанцый, калі спрабавалі дабіцца права на два пакоі ва універсітэцкім інтэрнаце па вул. Машэрава, што былі часова свабоднымі. Цэнтр мае свой рахунак у банку, але ж на ім – капейкі, бо дабрачыннасцю амаль ніхто не хоча займацца, калі ён у гэтым не зацікаўлены...

*Васіль Васільевіч ПІРАГОЎСКІ, дырэктар Мінскага фарфоравага завода:*

– Адна з галоўных праблем нашага завода, зрэшты, як і большасці іншых прадпрыемстваў рэспублікі, – даволі цяжкае фінансавае становішча. Мы старанна выконваем дзяржзаказ, пастаўляем сваю прадукцыю ў краіны СНД, а тыя затрымліваюць выплату грошай.

Што датычыць сыравіны, то ёю мы запасліся, і ўзровень вытворчасці ў нас не знізіўся. А вось некаторыя расійскія прадпрыемствы з металаёмістым працэсам вытворчасці, якія прастойваюць з-за недахопу сыравіны, выкідваюць часам "сюрпрызы". Гэтыя прадпрыемствы, куды наш завод пастаўляе камплектуючыя, то адмаўляюцца ад нашых паслуг, то зноў клічуць на дапамогу.

Канешне, ужо нагнала аскому праблема высокіх падаткаў, якімі абкладзены нашы прадпрыемствы. На тыя сродкі, якія застаюцца пасля выплаты ўсіх падаткаў, нам ніяк амаль немагчыма пашырыць ці ўдасканальваць вытворчасць. Браць крэдыты пад шалёныя працэнты? Таксама нявыгадна. Акрамя таго, дзяржава адбівае ўлялякую ахвоту супрацоўнічаць з заходнімі краінамі, замарозіўшы валютныя рахункі прадпрыемстваў. Хоць мы і знаходзім збыт на сваю прадукцыю ў многіх краінах, у тым ліку ў ЗША, Вялікабрытаніі, гэтыя кантакты зводзяцца большай часткай да бартэрных здзелак.

*З пісьма, што даслаў у рэдакцыю ваеннаслужачы А.Кухарэвіч: "Зусім нядаўна імя генерал-палкоўніка Чавуса было ва ўсіх на слыху. Ён сэрцам успрыняў клопаты вайскоўцаў, адным з першых усвядоміў неабходнасць стварэння ўласных Узброеных Сіл. Раскажыце, чым займаецца зараз Пётр Рыгоравіч".*



ГЕНЕРАЛ-ПАЛКОЎНІК ПЁТР ЧАВУС

# "Каб любіць Беларусь нашу мілую..."

*Выконваючы просьбу нашага чытача, публікуем інтэрв'ю, якое падрыхтаваў супрацоўнік прэс-цэнтра Міністэрства абароны РБ Уладзімір РУДЗЕНКА.*

**– Пётр Рыгоравіч, чым Вы заклапочаны, што хвалюе Вас як намесніка міністра абароны Рэспублікі Беларусь?**

— Ды ўсё тое ж — лёс афіцэраў і прапаршчыкаў, іх сем'яў. Скарачэння нельга пазбегнуць, час вымушае ісці на гэты крок, і патрэбна забяспечыць людзей усім неабходным. Распрацавалі прапановы для дзяржаўнай праграмы сацыяльнай абароны вайскоўцаў. Жыллё, працаўладкаванне, навучанне па новых спецыяльнасцях, пенсіі, медыцынскае абслугоўванне, удасканаленне заканадаўства — тут ёсць над чым паламаць галаву. Усе напрацоўкі групы спецыялістаў, якую я ўзначальваю, адпраўлены ў Савет Міністраў Беларусі. Дзяржаўны падыход забяспечыць будучай праграме высокую надзейнасць.

Таксама я адказваю за прызыў у войска.

**– Тады якраз пытанне аб тым, як ён праходзіць зараз...**

— Не зусім так, як хацелася б. Асабліва цяжкасці з прызывам адчуваюцца ў Мінску, Мінскай і Гомельскай абласцях. На прызыўныя пункты не з'явіліся амаль 2 тысячы юнакоў. Прычыны, вядома, розныя. Ёсць і аб'ектыўныя, але факт застаецца фактам: колькасць тых, хто адмаўляецца служыць у арміі, расце. Таму прыйшлося рашэннем Савета Міністраў прадоўжыць тэрмін адпраўкі прызыўнікоў да 20 ліпеня.

У чым тут справа? Некаторыя ўспрымаюць працэсы, што адбываюцца ў арміі, вельмі прымітыўна. Маўляў, скарачаюць войскі, яны непатрэбныя, а значыць і на службу можна махнуць рукой. Гэта па-першае. Па-другое, адсутнічаюць дзеючыя заканадаўчыя акты. А якія ёсць — недакладныя. Таму пракуратура неахвотна ўзбуджае справы па так званых "адмоўніках". У мінулым годзе толькі сем прызыўнікоў прыцягнуты да адказнасці за адмаўленне служыць у арміі. І трэцяе. Патрыятычнае выхаванне на Беларусі ў такой загане, што і ўявіць цяжка. Ідзе часам адкрытае ачарненне святога абавязку, якім ва ўсе часы з'яўлялася ваенная служба. Як рыхтуем да яе моладзь? Нават ціры ў школах зачыняюцца. Трэба спыніцца! У нас — свая армія. Ёй абараняць не якія-небудзь неабсяжныя прасторы, а родную Беларусь, нашу Бацькаўшчыну.

**– Ды і патрабаванні да прызыўнікоў змяніліся, у прыватнасці да іх здароўя.**

— Так, хворыя арміі не патрэбны. Служыць павінны моцныя, дужыя юнакі. Лячэннем хай займаюцца адпаведныя ўстановы да прызыву. Так будзе лепш і для арміі, і для краіны нашай.

**– А як быць з недахопам прызыўнікоў?**

— Недахоп адчувальны. Месцы звольненых будуць укамплектаваны толькі напалову. У нас жа яшчэ служылі прызыўнікі іншых рэгіёнаў... Выйсце — у скарачэнні воінскіх часцей, ва ўвядзенні новых структур.

Кожная дзяржава ўтрымлівае такую армію, якую яна можа забяспечыць усім неабходным, якая здолее абараніць суверэнітэт. Баяздольнасць жа залежыць не ад колькасці ўзбраення і асабовага складу, а ад якасці баявой падрыхтоўкі, прафесійнага майстэрства кожнага вайскоўца, яго адданасці Радзіме. Над гэтым мы і павінны працаваць.

**– Раз-пораз у прэсу пранікаюць меркаванні аб неабходнасці далейшага ўтрымання на тэрыторыі рэспублікі ядзернай зброі...**

— Ядзернае раззбраенне павінна весціся з улікам усіх акалічнасцей міжнароднага жыцця. Рэспубліка Беларусь дакладна выканае ўсе дамоўленасці па ліквідацыі ядзернай зброі.

**– Пётр Рыгоравіч, салдаты тэрміновай службы вярнуліся з "гарачых кропак", а вось афіцэры-беларусы ніяк не могуць вырвацца і кожны дзень рызыкуюць там жыццём...**

— Неабходна тэрмінова вырашаць праблему іх вяртання на дзяржаўным узроўні, прыняць адпаведныя заканадаўчыя акты, выдзеліць фінансавыя сродкі. Тут задача не толькі для Міністэрства абароны, але і для парламента, урада рэспублікі. Марудзіць нельга.

**– Як вядома, Чарнаморскі флот будзе падзелены паміж Расіяй і Украінай. Але ж і Беларусь удзельнічала ў аснашчэнні яго сучаснымі караблямі, тэхнікай высокай дакладнасці. Цяпер пра фінансаванне з нашага боку і не ўспамінаюць...**

— Думаю, што і Беларусь можа мець наконт падзелу флоту свае патрабаванні. Ва ўсякім разе пытанне, па-мойму, на чарговай сустрэчы кіраўнікоў краін СНД трэба абмеркаваць, знайсці палітычнае вырашэнне праблемы. А вось дыктат выкарыстоўваць нельга.

Калі ў нас няма цікавасці да Чарнаморскага флоту, то хай яна праявіцца да Балтыйскага. Ён бліжэй да нас. Іншая размова — якая частка, але тут усё — за перагаворамі.

**– Зараз створаны рэспубліканскі фонд абароны ваеннаслужачых, дзейнічае Беларускае згуртаванне вайскоўцаў. Як Вы ставіцеся да такіх арганізацый?**

— Па-ранейшаму прытрымліваюся думкі: усё, што дапамагае справе, людзям, неабходна вітаць і своечасова аказваць падтрымку. Але палітычным партыям — не месца ў арміі.

**– Чаго, на Вашу думку, не хапае сённяшнім вайскоўцам?**

— Прыстойнасці. Нельга быць майстрам сваёй справы за кошт падхалімажа, умення дагадзіць. Усе задачы пад сілу тым, хто шчыруе на службе, добры душой, хто не баіцца ўзяць адказнасць на сябе. Праўдзівым патрэбна заставацца і тады, калі твая праўда горкая. Увогуле нам неабходна тэрмінова звярнуць увагу на маральны ўзровень афіцэраў. Ад іх прыкладу залежыць лёс арміі. Нашай, падкрэслю, арміі.



## Чаму ў нашых крамах яшчэ доўга не будзе "белага дэфіцыту"

*Згодна з інфармацыяй, якой валодае рэдакцыя, органамі ўнутраных спраў за 9 месяцаў бягучага года выяўлена 8,5 тысячы эканамічных злачынстваў, што на 7 працэнтаў больш, чым у мінулым годзе. Вернута ў бюджэт больш як 80 мільёнаў рублёў. Перапынены незаконны вываз прадукцыі на суму 12 мільёнаў рублёў. На парушальнікаў накладзена каля 6 мільёнаў рублёў штрафаў. Але гэта толькі кропля ў моры. Паводле экспертных ацэнак, у сферы эканомікі не ўскрываецца да 70 працэнтаў злачынстваў, у тым ліку 90-95 працэнтаў хабарніцтва і крадзяжу.*

*Нягледзячы на сваю малую колькасць, нізкую тэхнічную аснашчанасць і адсутнасць дзяржаўнай праграмы ў галіне барацьбы з эканамічнымі злачынствамі, у бягучым годзе ў Рэспубліцы Беларусь выяўлена амаль на 30 працэнтаў больш эканамічных злачынстваў, чым у Маскве, дзе крымінагенная сітуацыя намнога вастрэйшая.*

*З мэтай вызвалення злачынцаў ад адказнасці многія раённыя суды і пракуратуры выкарыстоўваюць спасылкі на законы СССР, а МУС рэспублікі ў сваёй дзейнасці апіраецца на законы, прынятыя парламентам Рэспублікі Беларусь. Падобная адсутнасць адзінай палітыкі ў галіне процідзеяння эканамічнай злачыннасці нараджае негатыўныя тэндэнцыі. У рэспубліцы ў вялікай колькасці кіраўнікоў, у першую чаргу гаспадарчых, выпрацаваўся ўстойлівы прававы нігілізм, упэўненасць у беспакаранасці.*

*Асабліва добра гэта назіраецца пры аналізе парадку выдання ліцэнзій на вываз прадукцыі за межы рэспублікі. Яго парушалі практычна ўсе: ад намеснікаў міністра гандлю, намесніка старшыні Дзяржаўнага камітэта па матэрыяльна-тэхнічнаму забеспячэнню, намеснікаў старшынь усіх аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама і заканчваючы дырэктарамі заводаў і старшынямі калгасаў. Калі ж у справу ўмяшаліся службы МУС, то былі скарыстаны самыя розныя спосабы, каб пазбегнуць адказнасці, аж да прыняцця адпаведнай пастановы Саўміна.*

*Злачыннасць "белых каўняроў" у эканоміцы — справа для Захаду не новая. Але там улады вядуць барацьбу за кантроль над ёю. Невыпадкова найбольш распаўсюджаныя злачынствы, за якія гаспадары мафіёзных кланаў нясуць адказнасць, — ухіленне ад выплаты падаткаў. На жаль, такія "інструменты ўлады", як падатковы кантроль і г.д., у нас яшчэ не да канца распрацаваныя.*

*Менавіта таму матэрыял, змешчаны ніжэй, здаецца нам вельмі патрэбным і своечасовым.*

# "ПАПЯРОВЫ" ЦУКАР



Супрацоўнікі аднаго з факультэтаў БДУ вырашылі закупіць польскі цукар па 50 рублёў за кілаграм. Сярод разумных, як гэта бывае, знойдзецца заўсёды самы разумны. Ён вось і кінуў чутку ў інтэлігенцкія масы, што, маўляў, польскі цукар шкодны: у яго складзе знайшлі медзь. Некаторыя самі адмовіліся ад параўнальна таннага цукру. Трэба меркаваць, вучоныя людзі проста зблыталі паняцце "медзь" і "цукар", не ўлічваючы слова "бартэр". Справа ў тым, што цукар з Польшчы на Беларусь паступае ў асноўным у абмен на каляровыя металы. І не толькі. Да такіх высноў я прыйшла пасля таго, як прагледзела ў Міністэрстве рэсурсаў (былым Дзяржснабе) канцылярскую кнігу ліцэнзій на вываз прадукцыі з рэспублікі за мяжу.

З снежня гэтага года Саўмін РБ прыняў спецыяльную пастанову, адпаведна якой "пры выданні прадпрыемствам і арганізацыям, незалежна ад форм уласнасці, ліцэнзій і дазволаў на правядзенне бартэрных здзелак прадугледжваць, як правіла, закупкі імі збожжа не менш як 25 працэнтаў ад сумы, на якую заключаны здзелкі па пастаўцы сустрэчных тавараў". Іншымі словамі, што б ты ні вёз за мяжу, адлічы 25 працэнтаў ад здзелкі на збожжа. Пазней Саўмін прыраўняў да збожжа цукар, алей, дзіцячае харчаванне, медыкаменты. Усе пералічаныя дэфіцыты сталі эквівалентнымі ў працэнтным адлічэнні: можаш увозіць у рэспубліку дзіцячае харчаванне, не будзеш адлічваць 25 працэнтаў "збожжавых".

Народ у нас жвавы, яму не трэба доўга тлумачыць, чым пацвярджаць ліцэнзію на вываз. Папяровым патокам пацяклі да нас з-за мяжы і пшаніца, і цукар, а ад нас цягнікамі пайшлі... Адкрываем канцылярскую кнігу ліцэнзій Мінрэсурсаў РБ і з першых старонак чытаем:

10.01.92 г. НПКЦ "Прыналежнасць" (г.Мінск) вязе ў Балгарыю 54 тоны газетнай паперы, каб на суму ад продажу лячыць чарнобыльскіх дзяцей.

У сакавіку кааператыў "Экатэхпраект" хацеў пераправіць у ФРГ адходы лому алюмінію — 130 тон і колы танкаў у абмен на збожжа і тэкстыль, але бартэр быццам бы забаранілі. А вось фірме "Глабацэнтр" (16.04.92 г. — у кнізе не ўсе ліцэнзіі датаваныя) не адмовілі ў ліцэнзіі на вываз у Польшчу 600 тон адходаў медзі, 200 тон медных пруткоў, 200 тон меднага дроту ў абмен на 3,1 тоны цукру і 30 камп'ютэраў. Фірма "Экапраект" (г.Мінск) 6.05.92 г. пераправіла польскай фірме "Сталяр" 100 тон адходаў медзі ўзамен на 1460 тон пшаніцы і 50 тон нікелю — на 582 тоны цукру. ВА "Белаграінгандаль" (13.05.92 г.) абмяняла ў польскай "Уны" 30 зборных будаўнічых драўляных канструкцый на 136 тон цукру. МІКП "Рэнар" адгрузіў у Польшчу 330 тон алюмініевай пудры ўзамен на 880 тон цукру. СБПП "Аксаміт" (16.05.92 г.) памяняў у РП 5594 кв.м чыгунных радыятараў — на 200 тон цукру. Фірма "Фенікс" адправіла ў Германію 200 куб.м. бруса ў абмен на 380 тон цукру. МП "Гермес" абмяняў з польскай фірмай "Пух" 500 тон труб каналізацыйных на 200 тон цукру. Фірма "Гародняоптгандаль" занарадзіла польскай фірме "Сылонд": 30 тыс.кв.м плёнкі п/э; 10 тыс.кв.м сеткі-рабіцы; 2000 кв.м пліткі абліцовачнай; 100 штук вадападагравальнікаў (усяго адзінаццаць пазіцый) — і павінна была набыць 414 тон цукру. Прадпрыемства "АграБелэкс" за 2000 куб.м бярвення павінна было атрымаць з Аўстрыі 210 тон цукру. Брокерская кантора "Альпрыд" адправіла ў РП 100 тон паперы мелаванай (650 даляраў за тону) за 220 тон цукру. НВА "Камкон" (8.06.92 г.) падпісала дакументы на вываз у Грэцыю 500 куб.м ДСП — у абмен на медыкаменты і 1000000 кв.м ДВП — у абмен на апельсіны. ПМ "Маналіт" (г.Жлобін) паставіла палякам па бартэру 100000 тон вапны нягашанай за 900 тон цукру...

Не ведаю, на радасць ці на жаль, спіс гэты можна працягнуць на паўгазеты як мінімум. Калі б увесь абяцаны цукар увезлі ў Мінск — зрабіла я для сябе такі вывад, чытаючы ліцэнзійны журнал, — захворванне цукровым дыябетам было б забяспечана кожнаму жыхару сталіцы... Аднак жа, ліцэнзіі, акрамя Мінрэсурсаў, узгадняюць: Мінгандаль, Міністэрства аховы здароўя, Мінсельгаспрад, Дзяржкамдрук, Мінлегпрам... Прасачыць, які тавар і ў якой колькасці вывозіцца за мяжу, вельмі складана. Ды і навошта гэтая сізіфава праца?

Калі Саўмін рэспублікі задаволены існуючай ліцэнзійнай сістэмай, якая кантралюе толькі адзін бок: правільнасць афармлення ліцэнзіі на вываз, але "забывае" пра выкананне абяцанага прывозу, дык можна да бясконцасці прымаць пастановы па збожжу, цукру і г.д., а з паліц крам пачнуць знікаць тыя ці іншыя тавары.

У Камітэце знешэканомсувязі зваротнай статыстыкі на прадмет захавання бартэра — цукру на медзь, пшаніцы на радыятары і ўсяго таго, што вывозячы абумоўлівае ў ліцэнзіі, — не вядзецца. Супрацоўнік камітэта Віктар Рыгоравіч Касько параіў звярнуцца з гэтым пытаннем да мытнікаў. Мытнікі ў сваю чаргу сказалі, што іх служба не займаецца кантролем зваротнага прывозу. Іх справа, маўляў, — сачыць за грузавой дэкларацыяй. Між тым, на зваротным шляху да кантракта нескладана аформіць дадатак, і замест лекаў ці апельсінаў везці відэамагнітафоны, лікёры і іншую, больш выгадную для камерцыйнага гандлю прадукцыю.

Камерсанты — усемагутныя МП, СП, якія, як мне растлумачылі, закупліваюць каляровыя металы на біржах Расіі, а потым перапрадаюць іх у Польшчу, "дагналі" цану на цукар да сусветных стандартаў: 320 даляраў за тону. І прадаюць адпаведна. Ну, а ўсе тыя, каму не давялося акунуцца ў вір "крутой" камерцыі, сілкуюцца надзеяй набыць "белы дэфіцыт", адстаяўшы гадзін з 5 у чарзе, ды й тое, калі пашчасціць.

Тамара ХАМІЦЭВІЧ.

## Пад сцягам надзеі

?

*"Колькі беларускіх спартсменаў будзе выступаць на Алімпійскіх гульнях у Барселоне? Пад якім сцягам выйдуць яны на спаборніцтвы?*

**(М.Міхаленя, г.Магілёў)".**

Адказаць на гэтае пытанне мы папрасілі першага намесніка старшыні Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па фізічнай культуры і спорту Мікалая Цімафеевіча ЗАЙЧКОВА:

— У цяперашні час у зборных камандах Садружнасці Незалежных Дзяржаў да стартаў у Барселоне рыхтуюцца 53 беларускія спартсмены. Сярод іх вядомыя ва ўсім свеце атлеты: штангіст Аляксандр Курловіч, гімнасты Святлана Багінская і Віталь Шчэрба, лёгкаатлеты Таццяна Ледаўская, Аляксандр Паташоў, Наталля Шыколенка, барцы Вугар Аруджаў, Сяргей Смаль, Сяргей Дзямяшкевіч, баскетбалістка Ірына Свірыдзенка, тэнісістка Наталля Зверава.

На парад адкрыцця Гульняў зборная СНД выйдзе пад алімпійскім сцягам. А вось на форме ўдзельнікаў, у руках іх будзе сімволіка тых краін СНД, з якіх яны прыедуць у Барселону. Гэта — нацыянальныя эмблемы, сцяжкі, нашыўкі, сімвалы. Дарэчы, у Алімпійскай вёсцы — сярод іншых — ужо ўзняты і сцяг Рэспублікі Беларусь.

У гонар перамог каманд СНД па гульнявых відах спорту — баскетболу, валейболу, гандболу, калі гэтыя перамогі, вядома ж, будуць,— прагучыць алімпійскі гімн, а ў індывідуальных, напрыклад, сярод штангістаў, барцоў, лёгкаатлетаў — гімны краін — членаў СНД. І мы ўпэўнены, што гімн РБ (няхай сабе і стары, новы ж пакуль што не прыняты) прагучыць у Барселоне не адзін раз, а на флагштоку ўзнімецца бела-чырвона-белы сцяг суверэннай Беларусі.

## П'янству — бой?

?

*"Некалькі гадоў таму праходзіла шырокая кампанія стварэння шматлікіх таварыстваў барацьбы за цвярозасць. Цікава, чым яны займаюцца зараз?*

**(Н.Камейша, Смаргонскі раён)".**

Расказвае Раіса Сцяпанаўна ШЫЛАВА, першы намеснік старшыні Беларускага таварыства барацьбы за цвярозасць:

— Наша арганізацыя існуе з 1985 г. Раней мы больш займаліся прапагандысцкай дзейнасцю: чыталі лекцыі, праводзілі гутаркі ў розных дзяржаўных установах, арганізацыях. Зараз жа наблізіліся да практыкі: напрыклад, заключаем дагаворы з урачамі, якія дапамагаюць хворым кінуць піць і курыць. Дарэчы, дзякуючы тым працэнтам грошай, што адлічваюцца таварыству ў выніку лячэння хворых, мы да гэтага часу і існуем. А працаваць сёння няма ніякіх магчымасцей: Саўмін на чале з В.Кебічам адмовіў нам у фінансаванні, у выніку чаго нас пакідаюць супрацоўнікі.

Складваецца ўражанне, што мы нікому не патрэбныя. А людзі да нас прыходзяць, тэлефануюць нам, просяць дапамогі.

Я добра разумею: зараз усім цяжка. Але ж давайце паразважаем так: ну, няхай мы не выратуем усіх дарослых, але што будзем рабіць з падлеткамі, сотні і сотні якіх прызвычаіліся да гарэлкі, тытуню, наркотыкаў? Над гэтым варта задумацца, пакуль яшчэ не позна.

У нас ёсць праграма выхавання падлеткаў і дзяцей, але на гэта зноў жа патрэбны грошы.

Летась у Мінску праходзіла Міжнародная канферэнцыя па пытаннях барацьбы за цвярозы спосаб жыцця. Мы даведаліся, што, напрыклад, у Фінляндыі гэты рух шырока падтрымліваецца дзяржавай. І толькі такія дзікуны, як мы, ды яшчэ краіны былога Саюза шкадуюць сродкі на гэта.

**Падрыхтаваў Алесь Мяснікоў.**

## Мова кветак

?

*"Калі ідзём з мужам у госці, заўсёды спрачаемся наконт таго, якія кветкі дарыць. Чула, што кожная з іх нешта азначае, а што, дакладна — не ведаю. Ці не маглі б вы расказаць пра гэта?*

**Марыя Сяўко, г.Мінск".**

Вось што азначае, калі вам падарылі наступныя кветкі:

Акацыя жоўтая і белая — вас кахаюць платанічна.

Астра, гваздзік белы — выражаюць смутак.

Верас — скарга на адзіноту.

Гваздзік чырвоны — вас палка, горача кахаюць.

Гваздзік жоўты — да вас ставяцца з пагардай.

Вяргіня — вам удзячныя.

Гіяцынт — над вамі жартуюць.

Кураслеп — прызначаюць спатканне.

Лаванда — выказваюць недавер.

Ландыш — радуюцца вяртанню шчасця.

Мак, падснежнік — вас суцяшаюць.

Мімоза — вас саромеюцца.

Незабудка — "не забывайцеся на мяне".

Бутон белай ружы — да вас звяртаецца сэрца, якое яшчэ не ведае кахання.

Белая ружа — вам адказваюць маўчаннем.

Чырвоная ружа — вас кахаюць пакутліва.

Жоўтая ружа — вам здрадзілі.

Размарын — "ваша прысутнасць ажыўляе мяне".

Цюльпан — прызнанне ў каханні.



## Партыя — мільёнаў плечы?

?

*"Вельмі хацелася б даведацца пра палітычныя рухі і партыі, што існуюць на Беларусі.*

**М.Санчук, г.Мінск".**

Узнікненне новых палітычных плыняў на Беларусі — адна з характэрных з'яў апошняга часу. Вось зводная табліца палітычных партый і грамадска-палітычных рухаў, якія маюць найбольш устойлівыя арганізацыйныя структуры:

| Палітычныя партыі і рухі | Час афіцыйнай рэгістрацыі | Колькасць членаў |
|---|---|---|
| Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі | 19 сакавіка 1991 года | каля 300 (на 10 лістапада 1991 г.) |
| Беларуская Сялянская партыя | 11 красавіка 1991 года | 131 (на 23 лютага 1991 г.) |
| Беларуская Сацыял-дэмакратычная Грамада (БСДГ) | 22 мая 1991 года | каля 1000 (на лістапад 1991 г.) |
| Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі (НДПБ) | чэрвень 1991 года | каля 300 (на лістапад 1991 г.) |
| Беларуская Хрысціянска-дэмакратычная Злучнасць | чэрвень 1991 года | каля 150 (на лістапад 1991 г.) |
| Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" (БНФ) | 19 чэрвеня 1991 года | каля 15000 |
| Грамадска-палітычная арганізацыя працоўных Рэспублікі Беларусь сацыялістычнага накірунку "Рух за дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць" (ДСПС) | 7 лютага 1992 года | 10-15 тысяч |

1992

**Падрыхтаваў Сяргей Вішнеўскі.**

# ПАСЛЯ МАЎЧАННЯ














1 ліпеня 1992 года ў Гародні адкрыўся жаночы манастыр пры храме Ражства Багародзіцы. У гонар гэтай падзеі адбылася ўрачыстая літургія і Хрэсны ход са служэннем Патрыяршага Экзарха Усея Беларусі Мітрапаліта Мінскага і Гародзенскага Філарэта.

Урачыстая літургія была натуральным працягам службаў манастыра, якія скончыліся 30 чэрвеня 1960 года, калі ён быў зачынены. 32 гады маўчаў храм. І вось нарэшце тут загучалі галасы ўдзельніц хору Мінскай царквы Марыі Магдаліны.

На ўрачыстасці прыехалі манахіні, якія ў 60-м годзе пакінулі сцены роднага манастыра ў Гародні.

Храм размешчаны ў цэнтры горада, каля Новага замка. Узведзены ў 1720-1751 гг. у стылі барока. Галоўным будынкам комплексу з'яўляецца царква Ражства Багародзіцы, якая мае цэнтральны купал і дзве вежы (архітэктар І.Фантана). Да 1814 года гэта быў манастыр базіліянак і належаў уніятам. Потым на працягу 119 гадоў тут не спынялася служба Праваслаўнага манастыра Ражства Багародзіцы. У 1960 годзе ў манастыры жыла 61 манахіня...

На працягу 32 гадоў будынкі манастыра належалі музею Гісторыі рэлігіі. І толькі нядаўна намаганнямі гародзенскіх царкоўнаслужыцеляў і прыхаджан была атрымана магчымасць адраджэння манастыра.

Г.ЖЫГУНОВА.
Фота У.ЖЫГУНОВА.




Музычны выпуск "Нотны аркуш" вядзе журналіст Вітаўт Мартыненка. тэл. 39-87-94.

№10 (200)



Пяць гадоў таму чатыры нікому незнаёмыя юнакі вырашылі арганізаваць рок-групу. Мінула не так многа часу – і "Нью кідз он зэ блок" ("Новыя хлопцы з вуліцы") пачалі называць амерыканскімі "Бітлз". Праведзенае апытанне паказала, што папулярнасць гэтых маладых хлопцаў вельмі бязмерная.

Разам спяваюць і складаюць музыку: Доні Валберг, Дэнкі Вуд, Джо Макінтайр, Джордан і Джо Найт.

Узроставы склад удзельнікаў прафесійнай групы (ад 18 да 22 гадоў) прываблівае да іх вялікую колькасць моладзі гэтага ж узросту.

Фота ТАСС.

*З гісторыі*

## Беларускі хор у Англіі

Цікава, што ведаеце вы, шаноўныя чытачы, пра музычнае жыццё беларускае эміграцыі?

Нядаўна Выбранецкая музычная служба "Hals" атрымала ліст з Лондана ад спадара Юрыя Весялоўскага. У ім аўтар распавядае пра арганізацыю і дзейнасць беларускага мужчынскага хору ў Англіі: "...я арганізаваў яго недзе ў 1949-1950 гадох. Налічваў ён каля 12 асоб. Спявалі на 3-4 галасы. Паўстаў хор пры арганізацыі Хрысціянскага Аб'яднання Беларускіх Работнікаў (ХАБР). Выступалі на ўсіх беларускіх нацыянальных сьвятах, а часам і на Каляды і Вялікдзень, як рабілася супольнае прыняцьцё. Хор трымаўся больш як 10 гадоў. Пасьля харысты жаніліся, выязджалі – і так хор знік. Але яшчэ і цяпер, як, напрыклад, на апошні Вялікдзень, пасьля разгаўлення і прыняцьця, яго нешматлікія харысты выступілі на залю і засьпявалі сваю любімую песню "Пагоня" і іншыя.

У 1951 ці 1952 годзе хор езьдзіў у горад Манчэстэр, дзе жыло многа беларусаў, і там павесяліў іх сваімі песьнямі. Такая гэта менш-больш гісторыя хору ХАБР".

Дарэчы, зараз Юрый Весялоўскі рэдагуе і выдае ў Лондане беларускі часопіс "Голас часу".

Разам з лістом аўтар даслаў нам ноты песень Тэраўскага, якія выконваў хор. Прапануем Вам адну зь песень, якую можаце вывучыць і сьпяваць разам з сябрамі:

Юрай МІХНО,
дырэктар Выбранецкай
музычнай службы "Галс".

### ГЭЙ, СЯБРЫ ЎДАЛЫЯ

Мэлёдыя ТЭРАЎСКАГА — Верш СЁМАХА-КАЧАНСКАГА









1. Гэй, сябры ўдалыя,
гукнём мы вясёлую песьню,
нашу родную
пра маці Беларусь.
Бо мы ўсе сільныя,
сыны яе верныя,
будзем працаваць для яе,
покуль хопіць сіл.
2. Наш штандар працаўнікоў
ідэі беларускае
трымаем моцна мы
ў сваіх мазолістых руках.
Няхай зьзяе высока
Сонца працы вечнае,
Сьвеціць, асьвятляе нам
дарогу ў жыцьці.

Заўвага: за 3-м вершам сьпяваецца яшчэ раз 1-ы, канчаецца 2-й кодай.

*Зоркі на небасхіле*

## КАМЕРЦЫЯ ПОЛА МАКАРТНІ



Нягледзячы на тое, што ўдзельнік легендарнай ліверпульскай чацвёркі "Бітлз" Пол Макартні лічыцца самым прадуктыўным і энергічным, а таксама дасягнуўшым вялікага поспеху экс-бітлам, музычныя крытыкі не ў захапленні ад значнай часткі яго ных работ, лічачы іх вельмі камерцыйнымі. Самога ж Пола, напэўна, заўсёды мала хвалявала меркаванне газет і часопісаў — ён проста пісаў і выконваў тое, што лічыў патрэбным, і дамагаўся значнага поспеху; некаторыя творы, запісаныя сола, з групай "Уінгз" або з іншымі выканаўцамі, вядомыя ва ўсім свеце не менш, чым запісы "Бітлз".

Першы альбом музыканта так і называўся "Пол Макартні" (1970 г.) і быў вядомы не толькі тым, што гэта была сольная работа легендарнага экс-бітла, але і тым, што Макартні іграў на ўсіх інструментах сам. Нельга сказаць, што запіс атрымаўся экстра-класны, а ігра Пола на барабанах або гітары — віртуознай, але ўсё ж гэта было цікава. Рэакцыя слухачоў аказалася неадназначнай: хто хваліў артыста, а хто гаварыў з'едліва, у гэтым дасягнуў вялікіх поспехаў былы калега Макартні па "Бітлз" — Джон Ленан. Прычын таму некалькі, і асноўныя — не столькі якасць ігры Макартні або недахопы ў спевах ягонай жонкі Лінды, а, як лічыў Джон, скочванне Пола ў балота камерцыі і рэспектабельнасці. Бо Джон у той час быў поўны ідэй аб тым, як змяніць свет да лепшага, казаў, спяваў аб гэтым, дзейнічаў, а Пол "ціхенька пісаў песенькі аб каханні". Урэшце, час паказаў, што гэта было не зусім так.

"Рэм" ("Баран", 1971 г.) — так называўся другі сольны дыск музыканта, песня з якога "Дзядзька Альберт" ("Адмірал Хэлсі") заняла першае месца ў гіт-парадах ЗША. У канцы 1971 года Макартні стварыў уласную групу пад назвай "Уінгз" ("Крылы"), у склад якой увайшлі, акрамя Пола (бас-гітара, вакал): Лінда Макартні (клавішныя, вакал), Дэні Лэйн, які выступаў перад тым у групе "Мудзі Блюз" (гітара, вакал), і Дэні Сэйвел (ударныя). Гэты склад, з якім былі запісаны кружэлкі "Дзікае жыццё" (1971 г.) і "Чырвоная ружа спідвея" (1973 г.), на думку Пола, быў пасрэдным, і ў ім хутка адбыліся змены. Да Макартні далучыліся гітарысты Генры Макалох і Джымі Макалох (памёр у 1979 годзе ад сардэчнага прыступу ў выніку празмернай дозы наркотыкаў), а таксама гітарыст Лоўрэнс Джабер, барабаншчыкі Джэф Брытон, Джо Інглыш і Стыў Холі. Гэтыя музыканты суправаджалі "Уінгз" на канцэртах і дапамагалі ў час запісу альбомаў. Наступны, 1972 год атрымаўся скандальны: Бі-бі-сі забараніла трансліраваць адразу дзве кампазіцыі Макартні — "Аддайце Ірландыю" і "Хай Хай Хай". Першая была водгукам на "Крывавую нядзелю" і — расстрэл англійскімі войскамі дэманстрацыі ірландцаў-католікаў у Лондандэры (Ірландыя), і афіцыйныя ўлады забаранілі перадаваць яе ў эфір з-за "непажаданых палітычных настрояў", а другая здалася Бі-бі-сі прапагандуючай ужыванне наркотыкаў.

У 1973 годзе ўлады выставілі абвінавачванне ва ўжыванні наркотыкаў і супраць самога Пола, але да суда справа тады не дайшла.

"Уінгз" тым часам пакінулі Макалох і Сэйвел, а Макартні заняўся напісаннем музыкі да чарговага фільма пра Джэймса Бонда — "Жывi і дай памерці". Прадзюсеры фільма спачатку былі вельмі скептычна настроены супраць ягонай музычнай версіі, але, як аказалася, памыляліся — галоўная кампазіцыя заняла другое месца ў ЗША і дзевятае — у Вялікабрытаніі.

Запіс наступнага альбома — "Група ў руху" (1974 г.) — быў зроблены ў студыі вядомага кампазітара і барабаншчыка Джынджэра Бэйкера ў Нігерыі, Макартні акампаніравалі толькі Лінда і Дэні Лэйн.

Крытыкі ацанілі гэты альбом як лепшую работу пасля бітлаўскага перыяду Макартні, дыск два гады не выходзіў з гіт-парадаў розных краін, усяго ў свеце было прададзена звыш 5 мільёнаў экземпляраў.

Шкада, альбом "Венера і Марс" (1975 г.) аказаўся не вельмі паспяховым, калі не сказаць няўдалым (так здалося крытыкам), хаця ў ім было шмат прыгожых мелодый, а песня "Паслухай, што сказаў гэты чалавек" займала першае месца ў ЗША і шостае — у Англіі. Зноў з'явіліся размовы аб няздольнасці Макартні як кампазітара і паэта. Водпаведдзю крытыкам стала з'яўленне дыска "Крылы з хуткасцю святла" (1975 г.), кампазіцыя "Неразумная песня пра каханне" з якога заняла самыя высокія радкі гіт-парадаў многіх краін свету.

У гэтым жа годзе "Крылы" пачалі сусветнае турнэ, скончыўшы яго ў ЗША. Вынік – запіс трайнога канцэртнага альбома "Крылы" над Амерыкай" (1976 г.). Затым з'явіліся яшчэ два альбомы, сярод якіх "Горад Лондан" (1979 г.) карыстаўся стабільным поспехам у аўдыторыі.

У 1980 годзе ў пачатку гастроляў "Уінгз" па Японіі Макартні быў арыштаваны ў такійскім аэрапорце за нелегальны ўвоз у гэтую краіну марыхуаны (пакунак з наркотыкам якімсьці чынам апынуўся ў багажы выканаўцы). Полу давялося 10 дзён правесці ў зняволенні, пасля чаго яго накіравалі на радзіму, а гастролі адмянілі. У гэтым жа годзе Макартні пакінуў Лэйн — і "Уінгз" распаліся.

Пол зноў узяўся за сольную работу і запісаў у аднаўленым стылі гэты адзіноце абыякава сустрэты крытыкамі і аўдыторыяй альбом "Макартні II" (1980 г.). Пасля гэтага ён ужо не імкнуўся выступаць у ролі мультыінструменталіста, а проста запрашаў на запіс іншых музыкантаў — сваіх старых сяброў (у прыватнасці, Рынга Стара, Стыві Уандэра і іншых). У 1982 годзе Пол запісаў два выдатныя сінглы: "Гэта мая дзяўчына" ў дуэце з Майклам Джэксанам і "Чорнае дрэва і белая слановая костка" са Стыві Уандэрам, расказваючы аб тым, што людзі з розным колерам скуры аднолькава роўныя і дапаўняюць адзін аднаго на зямлі. Гэта кампазіцыя заняла першыя месцы адначасова ў ЗША, Вялікабрытаніі, а таксама практычна ва ўсіх краінах Заходняй Еўропы. Услед за гэтым Макартні выпускае адразу некалькі выдатных альбомаў, у якіх ён шмат эксперыментуе з рознымі стылямі — "Перацягванне каната" (1982 г.), "Трубы свету" (1983 г.), "Перадайце прывітанне Брод-стрыт" (1986 г.). Затым Пол крыху адышоў ад музычнай дзейнасці, пераключыўся на сямейныя справы — выхаванне і ўладкаванне сваіх дзяцей, а таксама заняўся бізнесам. Амаль два гады ён практычна не з'яўляўся на эстрадных падмостках, але, відаць, любоў да музыкі ўсё ж узяла сваё: разам з Ліндай Пол выступіў на некалькіх песенных фестывалях у якасці ўрачыстага госця. У 1988 годзе ён запісаў шэраг старых рок-н-ролаў і аформіў іх у пласцінку "Назад у СССР", якая распаўсюджвалася толькі ў СССР. Нядаўна Пол Макартні працаваў над сумеснай з Элвісам Кастэла пласцінкай пад назвай "Кветкі ў брудзе". Ён таксама падпісаў кантракт на сусветнае турнэ.

Мікола Салдаценкаў.

# РУСКІЯ

## Ы ♪ БАРДЫ ♪ БАРДЫ




Пачатак 80-х гадоў у Беларусі — гэта і пачатак беларускай бардаўскай песні ў ейным нацыянальным аспекце. Ля вытокаў гэтага руху стаялі Сяржук Сокалаў-Воюш (Наваполацк), Алесь Камоцкі (Менск), Вальжына Цярэшчанка (Гомель).

Цяпер гэта цэлая плынь, прадстаўнікі якой плённа працуюць практычна ва ўсіх буйных гарадах Беларусі.

На гэтым плакаце-постары прадстаўлены такія славутыя постаці бардаўскага руху, як Андрусь Мельнікаў (Орша), Зміцер Сідаровіч (Менск), Алесь Камоцкі (Менск) побач з прафесійным кампазітарам Зміцерам Яўтуховічам (Менск).

У актыў беларускага нацыянальнага бардаўскага руху можна запісаць вялікія фестывалі аўтарскай і маладзёжнай песні ў Гомелі (1990), Оршы (1991), Беластоку (1990, 1991, 1992), цыкл тэлевізійных перадач студыі "Мэта" пад назвай "Анталогія беларускай бардаўскай песні", трохгадзінную відэакасету "Беларускія барды" (Берома, 1992) і інш.

**Фота У.ПАНАДЫ.**

## Я СПРАБУЮ БЫЦЬ БАРДАМ

**Музыка і словы Зміцера СІДАРОВІЧА**

Сёння мова ўмірае
Той зямлі, дзе я ўзрос,
І таму я злучаю
З моўнай песняй свой лёс,
Рупна склаўшы ўсе фарбы
Слоў і музыкі ў ёй,
Я спрабую быць бардам
На старонцы маёй.
Нашай роднае мовы
На старонцы маёй.

Але ўжо мкнучы ў неба
І не гледзячы ўніз,
Раптам чую я шэпат:
"Злы ён нацыяналіст".
То вядомыя ўкусы —
Вынік пэўных умоў.
Гэта з тых беларусаў,
Што не звяжуць двух слоў.
На сваёй роднай мове
Што не звяжуць двух слоў.

Ну калі яны маюць
На радзіму пляваць,
Хай таксама спазнаюць
Здольнасць песні страляць.
А калі то ахвяры,
Што забітыя ўсім,
Будзь не зброяй, гітара,
Будзь падручнікам ім,
Нашай роднае мовы
Будзь падручнікам ім.

Ты бандытам і нацы
Не спрабуй мяне зваць.
Гэта слова не цацка,
Ім не варта гуляць.
Лепей будзь задаволены —
Ёсць песня мая:
Што не выклалі ў школе,
У ёй выкладваю я.
На тваёй роднай мове
У ёй выкладваю я.

Калі ты не свядомы —
Пашчу не разявай.
Пасядзі лепей дома,
Лямантар пачытай
Ці паслухай гітару,
Разгарнуўшы душу:
Я на думкі не скнара —
Усё табе раскажу.
На тваёй роднай мове
Усё табе раскажу.

## *Спяваем па-беларуску*

# ЗАВАРОЖАНАЯ ФЕЯ

Музыка А.Елісеенкава Словы А.Бадака

Што ж ты так глядзіш сурова
Ці адводзіш свой пагляд?
Толькі я табе ўсё роўна
І такой заўсёды рад.

Што ж паверыла так лёгка
Ты чужой, чужой мане?
Чорнай кошкай тыя плёткі
Перайшлі дарогу мне,

Прыпеў:
Заваружаная фея
Нагаворамі людзей.
Заваружаная фея
Не такая, як раней.
Міма пройдзе і са мною
Зноў не стане гаварыць.
Заваружаная фея,
Як цябе развbooражыць?

Што было калісьці шчасцем.
Стала ціхаю бядой.
І цяпер я іншых часта
Бачу вечарам з табой.

Ну, а следам за табою
Вось ужо каторы дзень
Ходзяць плёткі — болей, болей —
Неадступна, нібы цень.

Прыпеў.



## *Нататнік*

З 17 па 19 ліпеня ў Польшчы пройдзе III фестываль музыкі маладой Беларусі "Басовішча-92", дзе выступяць вядучыя выканаўцы ў жанры рок-музыкі і бардаўскай песні: Вальжына Цярэшчанка (Гомель), Сяржук Сокалаў-Воюш (Наваполацк), Данчык (Нью-Йорк), Алесь Камоцкі (Менск), Андрусь Мельнікаў (Орша), Віктар Шалкевіч (Гародня), "Мроя" (Менск), "Альбаросіка" (Беласток), "Грунвальд" і "Ален" (Наваполацк), "Крама" і "Уліс" (Менск), "Дзіда" і "Мясцовы час" (Полацк) ды шэраг іншых. На фестывалі працуюць і карэспандэнты "Чырвонай змены", таму ў бліжэйшых нумарах чакайце іхнія справаздачы.

* * *

Новалукомскі трэш-металёвы рок-гурт "Крэшар" упершыню гучна заявіў пра сябе на фестывалі "Рока-кола-92" ў Наваполацку (гл. наш артыкул "Не спыняе колы "Рока-кола" у "ЧЗ" за 5.06.1992г.). Ансамбль заснаваны ў 1991 годзе. У ягоны склад уваходзяць Валерый Іваноў (гітара, вакал), Ігар Стрыжнёў (сола-гітара), Уладзіслаў "Чорны" Чарнышоў (бас-гітара), Аляксандр Азява (бубны).

* * *

Вядомая спявачка Ала БАЯНАВА, якая апошнім часам жыла на эміграцыі ў Румыніі, дзе і запісала шэраг кружэлак, якія прадаваліся таксама ў нашых магазінах, нядаўна дала шэраг канцэртаў у Менску. Як заўважыла сама спявачка, "за тыя 500 выступаў, што дала яна пасля вяртання на радзіму, у Менску ўпершыню было ў зале столькі мужыкоў".

* * *

Прэзідэнт ЗША Джордж Буш крытычна выказаўся наконт аўтараў і выканаўцаў песень, дзе, паводле ягоных слоў, ухваляецца забойства палісмэнаў. Вось цытата з уласнага выказвання прэзідэнта: "Якім бы папулярным ні было імя фірмы, але нішто не апраўдае выпуск ёю кружэлак, дзе ўхваляецца забойства супрацоўнікаў праваахоўных органаў". У Амерыцы кожны разумее, што Джордж Буш меў на ўвазе карпарацыю "Тайм-Уорнэр", якая нядаўна выпусціла ў свет дыск з песняй "Забойца палісмэна". Амерыканская грамадскасць выступае з патрабаваннем забараніць песню або, прынамсі, байкатаваць прадукцыю "Тайм-Уорнэр". Афіцыйны прадстаўнік фірмы адзначыў, што "Тайм-Уорнэр" прытрымліваецца прынцыпу "вольнага выяўлення ідэй" усімі дзеячамі культуры. "Звычайная забарона песні не прывядзе да знікнення гвалту і злосці",– падкрэсліў ён.

* * *

Група музыкантаў і філолагаў пад кіраўніцтвам доктара навук Т.Куляшовай прыступіла да падрыхтоўкі вялікага тлумачальнага музычнага слоўніка. Гэтае энцыклапедычнае выданне мяркуецца з цягам часу выпусціць у двух варыянтах – руска-беларускім і беларуска-рускім. Будзе дадзена этымалогія іншамоўных слоў.

* * *

Музыка, створаная беларускай эміграцыяй, усё шырэйшую дарогу знаходзіць да нашага слухача. Гэта і ўдзел твораў М.Равенскага і М.Куліковіча-Шчаглова ў конкурсе на нацыянальны гімн Беларусі, і распаўсюджванне твораў гэтых кампазітараў і звестак пра іх у айчынных сродках масавай інфармацыі. Нядаўна чарговым разам выйшла ў эфір тэлевізійная перадача "Вяртанне Музыкі", прысвечаная творчасці выдатнага беларускага кампазітара Міколы Равенскага. Дарэчы, у перадачы, у прыватнасці, ішла гаворка пра неабходнасць перазахавання астанкаў кампазітара з Бельгіі (г.Лювэн) на радзіме.



## *Фанатэка*




### "ГРАМАДА" "GREATEST HITS" 2 ЛП студыя Гэнюся Шэмета, 1991

У той час, як у Польшчы можна набыць выданні ўсіх трох альбомаў папулярнай віцебскай каманды "Грамада", дык на наш рынак трапляюць толькі экземпляры 90-хвіліннага зборнага альбома, прыватна распаўсюджанага ўласнай "грамадоўскай" студыяй Гэнюся Шэмета. Гэтым, відаць, і тлумачыцца той факт, што ў Польшчы "Грамада" больш вядомая, чым на радзіме. А, між тым, рэпертуар яе выключна беларускі.

Падрабязнае знаёмства чытачоў нашай газеты з гэтым калектывам адбылося яшчэ напачатку сёлетняга красавіка, калі ў № 6 (196) "Нотнага аркуша" мы змясцілі артыкул Х.Яснай "Грамада": знаёмыя незнаёмцы". Таму зараз не будзем спыняцца на біяграфіі ансамбля, а пяройдзем адразу да праграмы зборкі "Выбраных гітоў".

Не выпадае назваць усе песні альбома, бо іх увайшло сюды ажно 38. Бадай, вызначым асноўныя тэмы.

"Грамада" аказалася адзіным беларускім рок-гуртам, які стварыў цэлы цыкл дзіцячых песень: "Ля ялінкі", "Вясёлы дзень", "Беларускі лацінскі алфавіт", "Карагод месяцаў" і г.д.

Вядомая грамада і сваімі апрацоўкамі фальклору, якія, безумоўна, таксама ўвайшлі ў падборку. Толькі калі ў песнях "Чычэры", "Ў каморы грошы", "Каліна ў лузе" і да таго падобных мы чуем цалкам знаёмыя тэксты, дык, здараецца (напрыклад, у песні "Падманула, падвяла"), слых натыкаецца на цалкам адвольныя варыяцыі.

Вельмі цікавы ўласна "грамадоўскі" рэпертуар – кампазіцыі, створаныя калектывам у стылістыцы поп-рока. Тут нельга не ўзгадаць палымяную сатыру "Я ратую сваю зямлю", прыгожую лірыку "Бажэне", зухаватыя і вясёлыя "Танец-зажыманец" ды "Таньчым рок-н-рол".

На жаль, праславілася "Грамада" і перапевамі расейскіх шлягераў ("Не плач, Ізабэла", "Старыя бабулькі" і г.д.). Чаму "на жаль"? Таму, што публіка, якая ведае "Грамаду" толькі з гэтых запісаў, ніколі не ставілася да калектыву сур'ёзна. Але ў кантэксце агульнай палітры рэпертуару гэтая беларускамоўная "Папяроска, папяроска" ды "Не плач, Ізабэла, не плач", па сутнасці, скіраваны на паступовае вяртанне нашага атручанага чужацтвам слухача да сваёй песні, мовы, культуры, свядомасці.




### "Г'ЮМЭН ЛІГ" "ЛЬГА!" Вірджын рэкордс, 1981

Многім, відаць, даводзілася ў сваім жыцці (і не раз) чуць суровы загад: "Нельга!". Магчыма і музыкі брытанскага новахвалевага рок-гурта "Г'юмэн ліг" (гуманістычная ліга, ліга людзей), наслухаўшыся такіх загадаў, вырашылі выгукнуць насуперак "Льга!".

Гэтыя музыкі – Ян Бардэн (сінтэзатар), Ё Каліс (сінтэзатар), Джоана Катэрал (вакал), Філіп Оўкі (вакал і сінтэзатар), Сюзан Салі (вакал), Філіп Адрыян Райт (слайды і электронныя эфекты).

Пачатак гурта адводзіць нас у 1977 год, калі ў Шэфілдзе два камп'ютэрныя тэхнікі заснавалі аматарскую каманду "Future". Пасляваць з імі вырашыў і нейкі парцье Філіп Оўкі. Хлопцы нешта там някепскае "збацалі", дзякуючы чаму іх заўважыў так званы "лавец талентаў" Боб Ласт, уладальнік невялікай незалежнай фірмы "Фэст рэкордс". Фірме неставала грошай, каб плаціць супер-зоркам, дык вось яна, назбіраўшы дзесятка паўтара дваровых каманд, выпусціла зборку "Fast products". Нашыя хлапчукі дзеля гэтага і назву змянілі на больш арыгінальную – "Г'юмэн ліг". Хоць тады і ніхто не ведаў, што з той зборкі бярэ старт новая супер-зорка, але ж спадзяваліся.

Неўзабаве фірма рызыкнула выдаць і аўтарскі сінгл менавіта "Г'юмэн ліг" з кампазіцыямі "Істотная раздражнёнасць" і "Цырк смерці". Патроху гурт пачынае адчуваць грунт пад нагамі, больш сур'ёзна ставіцца да музычнай творчасці, укамплектоўвае склад.

Першы вынік – "Г'юмэн ліг" запрашае на сумесныя гастролі вядомая група "Сюзі энд зэ Бэншыз". Гэта і быў выхад у шырокі свет, пасля якога "Фэст рэкордс" вымушана была зноў шукаць маладых талентаў, а "Г'юмэн ліг" падпісвае кантракт з гігантам "Вірджын рэкордс", дзе і выходзіць першы альбом "Рэпрадукцыя". Але новыя далягляды – гэта і новыя патрабаванні. І "Рэпрадукцыю", і "Trevelogue" крытыка разнесла за недасканалае валоданне інструментамі. Расчараваныя адышлі заснавальнікі гурта (Уэйр і Марш). Але Філіпу Оўкі не хацелася вяртацца да працы парцье. Разам з тымі, хто застаўся, знайшлі кампаньёнаў (і кампаньёнак) і... гурт, што павінен быў знікнуць, выдае дыск, які многія спецыялісты ахарактарызавалі "найлепшай кружэлкай у стылі нью-уэйв". Гэта і быў альбом "Льга!" ("Dare!"), з якога пачынаецца шлях сапраўднай супер-зоркі.

Альбом складаецца з адной інструменталкі ("Дагнаць фурмана") і дзевяці кампазіцый, дзе тэксты і музыка належаць выключна ўдзельнікам калектыву: "Рэчы, якія прыйшлі з сноў", "Адчыні сваё сэрца", "Голас натоўпу", "Цемра", "Дзейнічаць або паміраць", "Я маю рацыю", "Секунды", "Жыву каханнем", "Ці патрэбен я табе?".



### КЭЙТ БУШ "Ніколі назаўсёды" EMI, 1980.

У гэтай спявачкі цяжкі шлях да нашага слухача. Напачатку 80-х, акурат напярэдадні выхаду кружэлкі "Ніколі назаўсёды", прэса з захапленнем пісала: "Ейныя песні эмацыянальныя, але ў той жа час філасофскія. У іх ёсць элемент песні-развагі, песні-балады. Альбом "Ніколі назаўсёды" (ён выйдзе восенню гэтага (1980) года) пра імкненне людзей да самаўдасканалення, пра пошукі ўзаемаразумення між людзьмі дзеля таго, каб пазбегнуць войнаў, каб над чалавецтвам не вісела пагроза атамнай катастрофы".

Аднак журналісты многіх газет, асабліва маладзёжных, якія пішуць пра поп- і рок-музыку, памятаюць, як у 1983-м розныя ЦК закідвалі іх інструкцыямі ды цыркулярамі са спісамі "забароненых" заходніх выканаўцаў. Была ў гэтым спісе і Кэйт Буш акурат з альбомам "Ніколі назаўсёды".

Канец 80-х прыносіць новы паварот у лёсе: "Ідэалагічна шкодны" альбом стала магчымым свабодна купіць у нашых крамах у перавыданні балгарскай фірмы "Балкантон" за казачна нізкі нават па тых часах кошт – 4 рублі.

А між тым увесь свет адкрыў для сябе талент брытанскай рок-спявачкі яшчэ з сярэдзіны 70-х гадоў, калі ў музычны свет уварваліся энергічныя рок-дзяўчаты Сюзі Куатро, Боні Тайлер, Грэйс Слік, Ніна Гаген. Толькі манера Кэйт адрознівалася не крыклівасцю і напорам, а ўдумлівасцю, пяшчотнасцю, фальклорнымі інтанацыямі.

Нарадзілася 30 чэрвеня 1958 года ў Велінгу (графства Кент). Магчыма, на характар творчасці паўплывала і тое, што іхняя сям'я жыла ў старым 300-гадовым асабняку. Да таго ж бацька (лекар) і маці, згодна з сямейнай традыцыяй, шмат увагі ўдзялялі музыцы, выхоўваючы дзяцей. Дарэчы, на анатуемым альбоме ёсць песня "Babooshka", у якой на балалайцы іграе брат спявачкі.

Сама яна пачала пісаць песні даволі рана – у адзінаццаць гадоў. Калі некаторыя запісы праз цэлы ланцуг знаёмых трапілі да гітарыста рок-гурта "Пінк Флойд" Д.Гілмара, той ацаніў здольнасці дзяўчынкі. Кэйт атрымлівае магчымасць папрацаваць у прафесійнай студыі і... у 1977 годзе выходзіць першы альбом "The Kick Inside". Дарэчы, ёй дапамагалі музыкі вядомага ансамбля "Алан Парсонс праджэкт".

Кружэлка "Ніколі назаўсёды" з'яўляецца чацвёртай у дыскаграфіі спявачкі (і далёка не апошняй). Як заўсёды, яна ўтрымлівае разнастайныя кампазіцыі, што не падпадаюць пад адзіную класіфікацыю. Тут ёсць усё – ад класічнага рока праз панк і аж да новай хвалі.

# Трэці лішні?

## Беларускія інтарэсы на Пскоўшчыне

Нядаўна дабрачынным фондам "Садзейнічанне", які ўзначальвае дэпутат Вярхоўнай Рады Эстоніі Сяргей Пецінаў, утворана грамадскае аб'яднанне "Вытокі". Яно імкнецца вырашыць у парламентах ды ўрадах Расеі і Эстоніі пытанні вымушанага перасялення, шукае партнёраў, фундатараў, а галоўнае — завязвае кантакты з мясцовымі ўладамі канкрэтных тэрыторый мяркуемага кампактнага пасялення цяперашніх жыхароў Эстоніі.

Пскоўскія ўлады вельмі прыхільна ставяцца да эстонскіх расейцаў — улічваецца культура працы, перанятая ад педантычных і спакойных эстонцаў, узровень прафесіянальнай падрыхтоўкі і г.д. Напрыклад, у Пскоўскім раёне кіраўніком адміністрацыі Е.Івановым падпісаны дакумент: "Прапановы Пскоўскага раёна па арганізаванаму перасяленню рускамоўнага насельніцтва з Эстоніі". Ужо ёсць гатовыя будаўнічыя пляцоўкі, праектна-каштарысная дакументацыя на іх. Што ж, справа добрая. Але...

Спрадвечныя крывіцкія землі перажываюць другое засяленне. Толькі ці ўлічваецца іншы немалаважны аспект праблемы — культурна-этнаграфічны? Пад пагрозай захаванне адметнасці гэтае зямлі і ейнага насельніцтва, вывучэнне мясцовага фальклору, побыту...

Пскоўшчына і Наўгародчына — старажытныя вечавыя рэспублікі, знішчаныя ў XV-XVI ст.ст. Маскоўскай дзяржавай. Акрамя гэтых зямель, ніякія іншыя з сучаснай Расеі не мелі традыцыі веча. Наадварот, старажытныя крывіцкія гарады — Полацк , Віцебск, Смаленск — мелі веча за хрыбет дзяржаўнай структуры. А ўлічыўшы агульнае этнічнае паходжанне, шматвяковыя разнастайныя сувязі, што адлюстравана ў многіх навуковых працах, атаясамліванне многімі даследчыкамі жыхароў паўднёвай Пскоўшчыны з беларускім этнасам (гл., напр., Е.Е.Ширяев, "Русь Белая, Русь Черная и Литва в картах", Мн., "Навука і тэхніка", 1991), мы маем права выказаць сваё стаўленне да праблемы перасялення расейцаў на Пскоўшчыну.

Я не заклікаю вярнуць гэтыя землі Бацькаўшчыне, хачу толькі прыцягнуць увагу навуковых дзеячаў, палітычных мужоў: мы — нашчадкі гэтай зямлі — нясём прамую і канкрэтную адказнасць за тое, што адбываецца на ёй (як і на Віленшчыне, Смаленшчыне, Беласточчыне). Сучасная Беларусь — апірышча і метраполія этнічных беларусаў, якія па волі лёсу апынуліся па-за дзяржавай, менаванай Рэспубліка Беларусь.

Р.-О.ХАРДРАДА.



У Віленскім педінстытуце летась створана беларуская кафедра, якая рыхтуе выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры для школ Літвы. НА ЗДЫМКУ: першыя студэнты новай кафедры.

Фота У.ПАНАДЫ.

# ГАБЕЛЕНЫ Ў КЛУНКАХ

**27 чэрвеня на адкрыцці другой выставы беларускіх мастакоў з краін Прыбалтыкі і Санкт-Пецярбурга "Маю гонар" кіраўнік Скарынаўскага цэнтра А.Мальдзіс выказаў ідэю стварэння музея "Беларусы ў свеце".**

— Тут патрэбны агульныя намаганні, — гаварыў тады А.Мальдзіс, — не толькі Згуртавання беларусаў свету альбо Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, але і міністэрстваў культуры, адукацыі, замежных спраў, бо ажыццяўленне гэтай ідэі магчыма толькі ў сусветных рамках. Сабраць наш культурны набытак з усяго свету за год-два не ўдасца. Але за гэты час можна стварыць ініцыятыўную групу, якая падрыхтуе адпаведныя распрацоўкі. Гэты музей бачыцца мне не толькі як мастацкі: у ім павінны быць адлюстраваны і этнаграфічныя знаходкі, і адпаведныя матэрыялы па літаратуры і мове. Музей павінен быць шматгранным як само жыццё.

А першы крок зрабілі мастакі. Вячка Целеш, да прыкладу, падарыў будучаму музею партрэт паэта Пятра Сокала (Масальскага). Іншыя падтрымалі Целеша.

Аднак, як сказаў кіраўнік "Бацькаўшчыны" Я.Лецка, ад задумы да рэалізацыі шлях бывае вельмі доўгі. Яго настрой можна зразумець, калі ўлічыць, што сама выстава "Маю гонар" рабілася з цяжкасцямі.

Паўтарылася мінулагодняя гісторыя з транспартаваннем работ: Міністэрства культуры не ахвяравала ніводнага "зайчыка" ці "вавёрачкі" на тое, каб мастакі маглі перавезці з горада ў горад свае работы. Навучаныя горкім вопытам, калі іх нават не хацелі пускаць у цягнік з груваcткімі пакункамі (а габелен ці жывапіснае палатно — гэта ж не мех з семкамі: запхнуў пад сядзенне — і едзь сабе!), мастакі былі вымушаны адмовіцца ад таго, каб везці ў Мінск вялікія па памерах работы, і выбралі тое, што можна было без пакут засунуць пад лаўку ці закінуць на верхнюю паліцу. А што ў выніку? Мастакі, можна сказаць, самі закрэслілі свой поспех, дакладней, закрэсліла Міністэрства культуры, якое паклапацілася толькі пра памяшканне для выставы.

Маленькія транспартабельныя работы не заўсёды могуць даць уяўленне пра творчасць мастака, і выстава не зрабілася з'явай, не зрабілася святам. І адзінымі плямкамі, якія саграваλі душэўным цяплом і шчырасцю, былі па-юнацкаму свежыя і непасрэдныя пейзажы Мацея Чырыча з Рыгі ды калажы Віктара Сівухі з Санкт-Пецярбурга.

Астатнія творы, вельмі добрыя паасобку, так і не стварылі агульнай карціны свята — не было нейкай цэласнасці.

Скажам, Янка Чарнякевіч знаёміў на гэты раз мінскага гледача з роспісам па палатне. Але ж не ўбачылі наведвальнікі тыя габелены і жывапісныя палотны, якія вісяць у Янкавай майстэрні ў Санкт-Пецярбургу...

Безумоўна, спадабаліся мне і прасторавыя кампазіцыі з нітак і фальгі Ларысы Лойка з Рыгі, і нацюрморты Хрысціны Балаховіч з Вільні, і "Трохкутнік" Вячкі Целеша...

**Нельга абысці ўвагай і калажы з тканіны Віці Сівухі з Санкт-Пецярбурга. Найлепшая з чатырох яго работ "Спакушэнне" – алегарычная містэрыя на біблейскую тэму. Як таямніча і загадкава размаўляюць паміж сабой колеры, учэпіста ахопленыя чорнымі лініямі кратаў кампазіцыйнага малюнка! І ў тым, як моцна трымаюць колер гэтыя лініі – то зусім тонкія, то знарок важкія, – не дазваляючы выйсці за рамкі, пазначаныя мастаком, ёсць у гэтым і нейкая непазбежнасць, і сцвярджэнне таго, што ўсё наша жыццё – краты, з-за якіх не вырвацца. Але гэта не тыя краты, якія забіраюць волю чалавека, а тыя, якія стрымліваюць пачуцці, не даючы ім паглынуць нас цалкам. Калі ж ахапіць адным позіркам усю работу – гэта яшчэ і святло, якое прысутнічае ў кожнай нашай дзеі, у кожным нашым кроку, у кожнай думцы ці адчуванні, – сцвярджэнне таго, што мы – жывыя людзі, і, як усе жывыя, паўтараем тое, што ўжо было некалі, – і спакушаемся, і спакушаем! Дзеля пазнання, дзеля спасціжэння.**

...Пэўна, вельмі добра, што дзве незалежныя творчыя групы, якія мелі адну і тую ж назву "Маю гонар" (адна з іх існавала ў Прыбалтыцы, а другая ў Санкт-Пецярбургу), нарэшце аб'ядналіся і робяць сумесныя выставы, як гэта было ў Рызе, у Кохтла-Ярве, Мінску. Падтрымаць бы іх памкненні і памятаць, што яны і па паходжанні, і па свядомасці — беларусы, што яны памятаюць сваю Бацькаўшчыну і маюць свой беларускі гонар.

Анатоль КІРВЕЛЬ.

Тэматычны выпуск "СУМЕЖЖА" падрыхтаваў журналіст Валер КАЛІНОЎСКІ. Тэл.: 32-24-96

# ПАМІЖ ІЛЮЗІЯЙ І АБСУРДАМ

## Чаму сумуюць беластоцкія беларусы?

Песімізм, які апошнім часам апанаваў беларускае асяроддзе ў Польшчы, не мае сабе роўнага, хіба што — як гавораць старыя людзі — сённяшнюю сітуацыю можна параўнаць з трыццатымі гадамі. Усюды пачуццё безнадзейнасці, бяссілля і чаканне яшчэ горшага.

Мы, беларусы, перажываем не толькі развал эканомікі нашага рэгіёна, але таксама ўсіх сфер нацыянальнага жыцця. Хаця ўзнікла шмат беларускіх арганізацый і паўстаюць новыя, аднак іх рэальныя ўплывы ў грамадстве невялікія.

Мы (як нацыянальная група) мелі шанц паменшыць свае клопаты, стварыць падставы для культурнага жыцця на будучыню, але ці то прыватныя інтарэсы некаторых беларускіх дзеячаў, ці служба чужым установам, ці звычайнае ідыёцтва беларускага мужыка са званнем прафесара ці магістра не дае нам магчымасці нічога зрабіць. У 1990 г. урад Тадэвуша Мазавецкага прызначыў беларускай меншасці 4 мільярды злотых, прапануючы інвесціраваць іх так, каб забяспечылі яны ў будучыні культурныя патрэбы беларусаў у Польшчы. Іншыя меншасці атрымалі таксама — адны больш, другія менш. Усе яны зразумелі, што такая каша з неба можа ўпасці толькі раз. Славакі купілі вялізны будынак у цэнтры Кракава, украінцы — у Варшаве, ствараючы адначасова сваю паліграфічную базу. Пра немцаў лепей і не ўспамінаць — суму, якую атрымалі, хутка патроілі. А беларусы — купілі аўтакар, які абрабавалі нейкія жулікі (пакуль селі першыя пасажыры), зрабілі інтэр'ер кавярні ў будынку БГКТ у Беластоку, у якой ніхто і ніколі не сядзеў і сядзець не збіраецца, прытым будынак гэты — чужая ўласнасць. Купілі ў той жа будынак аграмадныя фатэлі, тэлевізар (найдаражэйшы, які быў у Беластоку), якога глядзець ніхто не будзе, ну і "паланез", тэхнічныя вартасці якога маглі ацаніць дзеячы БГКТ. Адна сэнсоўная пакупка — камп'ютэры на патрэбы выдавецкага руху, прадмет апошняй унутранай беларускай вайны, якія ў рэшце рэшт стаяць нявыкарыстаныя ў будынку БГКТ у Беластоку. Планавалася, як ведаю, пакупка друкарні, аднак 600 мільёнаў, прызначаных на гэта, дзесьці "разлезліся".

4 мільярды злотых — то, калі мне нулі не памыляюцца, гэта (беручы пад увагу цану долара з 1990 г.) 420 тысяч долараў. За такую суму мы маглі купіць будынак у Берліне, Парыжы ці Жэневе, і там арганізаваць кангрэсы сваіх арганізацый!

Шмат з нас у васьмідзесятых гадах паверыла таксама ў тое, што развал камуністычнай сістэмы развяжа шмат нашых нацыянальных праблем. Асабліва маладыя людзі мелі надзею, што паўстане дэмакратычная дзяржава, якая ўсіх грамадзян цаніць будзе аднолькава, не звяртаючы ўвагу на іх нацыянальнасць, рэлігію, светапогляд. Снілася нам, што калі адыдзе таталітарная сістэма, паўстане на яе месцы цывілізаваная еўрапейская палітычная рэчаіснасць. Замест таго вырасла нацыянальная дзяржава, дзе роўнасць грамадзян ёсць толькі фармальная, дзеля патрэб знешняй палітыкі.

Лічылі мы таксама, што, калі паўстане беларуская дзяржава, падтрымае яна нас ужо толькі сваім існаваннем. І паўстала быццам незалежная Беларусь, сцяг, як трэба, вісіць над парламентам. І нават некаторыя міністры мовяць на роднай мове, аднак у нашай сітуацыі тут нічога не змянілася. Быў у Польшчы прэм'ер-міністр Кебіч, міністр замежных спраў Краўчанка, міністр асветы Гайсёнак, віцэ-міністр культуры Рылатка. Што ўразіла шмат беларусаў у гэтых палітыкаў — гэта закамплексаванасць перад палякамі, амаль нулявое разуменне праблем беларускай меншасці ў Польшчы і фармалізм у адносінах да сваіх суродзічаў. Пасля гэтых візітаў шмат людзей страціла нават надзею на якія-кольвек змены. Ёсць яшчэ і апазіцыя, але яна так занята барацьбой за ўладу, што забылася, дзеля якіх мэтаў вядзе гэтую барацьбу!

Узнікае тут пытанне: на каго альбо на што мы, беларусы, можам разлічваць, і ці варта ўвогуле яшчэ за штосьці змагацца: ці не лепей апусціць рукі і чакаць, калі знікне "Ніва", бо не будзе каму яе чытаць, калі закрыюць апошнюю беларускую школу, бо не будзе каму ў яе хадзіць?!

Яўген МІРАНОВІЧ.
"Czasopis" (Беласток).

# КУФЭРАК З САКРЭТАМ



З гісторыі палітычных замахаў

## "...СПОСАБ, ЯКІ ЗАСЛУГОУВАЕ ГАНЬБАВАННЯ"

У чэрвені 1579 г. польскі кароль Стэфан Баторый накіраваў у Маскву ганца з граматай, у якой апавяшчаў цара Івана Грознага, што аднаўляе ваенныя дзеянні. Адначасова яго армія рушыла на ўсход.

На 1581 г. польскі кароль намеціў авалоданне Псковам, і ўжо 18 жніўня яго авангарды з'явіліся ля гэтай старажытнай рускай крэпасці. "Госпадзі, які вялікі горад! — здзіўляўся польскі свяшчэннік Піятроўскі. — Вельмі вялікі, якога няма ва ўсёй Польшчы...".

Першыя спробы ўзяць горад ліхімі наскокамі поспехам не скончыліся, а абаронцы раптоўнымі вылазкамі прычынялі праціўніку немалыя страты. Акрамя таго, пушкары спынялі любыя спробы наблізіцца да крэпасці і змаглі разбіць галоўны парахавы склеп Баторыя.

У час доўгай пяцімесячнай асады горада польскі кароль шмат разоў мяняў тактыку: то пасылаў рабіць хітрамудрыя падкопы, то кідаў свае шматтысячныя войскі на штурм, то абрушваў на горад град распаленых ядраў, то прымяняў "псіхічныя" атакі, пасылаючы на кончыках стрэл "цудоўныя пісьмы", але поспех не прыходзіў. Абаронцы Пскова трымаліся стойка і ўмела адбівалі ўсе выпады акружаўшых. Доўгае "сядзенне" пад сценамі непрыступнай крэпасці, недахоп ежы, марненне ў зімовыя халады ў шатрах і зямлянках, вельмі значныя страты відавочна адбіліся на духу польскага войска — паводле сведчання відавочца, "гетманы і ротмістры шаблямі секлі гайдукоў, прымушаючы іх ісці да горада на прыступ".

У рэшце рэшт Баторый вырашыў адвесці войска далей ад Пскова. А хутка і зусім перадаў вярхоўнае камандаванне свайму бліжэйшаму памочніку гетману Яну Замойскаму. Той у студзені 1582 года зноў паспрабаваў узяць Пскоў ужо па свайму плану, аднак яму пашанцавала не больш, чым каралю. Нялішне нагадаць, што за пяць месяцаў асады польска-літоўская рать 21 раз хадзіла на прыступы, тады як асаджаныя паспяхова зрабілі 41 вылазку, прычыніўшы праціўніку немалыя страты. Для Баторыя і Замойскага не было вялікім сакрэтам, што стойкая і ўмелая абарона горада ў многім залежала ад яе кіраўнікоў князёў В.Скопіна-Шуйскага і І.Шуйскага.

І тады ў польска-літоўскім лагеры вырашылі яшчэ раз паспрабаваць зламаць упартасць абаронцаў, але не сілай зброі. "Паспрабаваўшы ўсе сродкі зламаць гераічнае супраціўленне Пскова, палкаводзец выкарыстаў спосаб, які заслугоўвае ганьбавання", — вымушаны быў напісаць пра Замойскага польскі гісторык К.Валішэўскі, які выкладаў гісторыю дзяржавы Расійскай па-французску. Размова ішла далёка не аб рыцарскім вядзенні баявых дзеянняў.

Зрэшты, звернемся да "Аповесці аб прыходзе Стэфана Баторыя на горад Пскоў", аўтарам якой быў відавочца асады іканапісец манах Васілій. Вось аб чым ён паведаміў: "Таго ж месяца студзеня ў 9-ы дзень прыйшоў з літоўскага лагера ў Пскоў рускі палонны і прынёс з сабою вялікі і цяжкі куфэрак. Яго ўпусцілі ў горад і прывялі да гасударавых баяр і ваявод, ён жа сказаў ім пра куфэрак і грамату, што яны прысланы ад каралеўскага дваравіна Гансумелера. У грамаце было напісана: "Першаму гасудараваму баярыну і ваяводу, князю Івану Пятровічу Гансумелер чалом б'е. Бываў я ў вашага гасудара з немцам Юрыем Франбрэннікам і цяпер успомніў гасудара вашага хлеб-соль і не хачу супраць яго стаяць, а хачу выехаць на яго гасударава імя. А наперадзе сябе паслаў з вашым палонным сваю казну ў тым куфэрку, які ён да цябе прынясе. І ты б, князь Іван Пятровіч, той мой куфэрак і таго палоннага ўзяў і казну маю ў тым куфэрку адзін паглядзеў, а іншым не даваў бы глядзець".

Тут неабходна зрабіць тлумачэнні. На самай справе Гансумелерам, дакладней Гансам Мюлерам, назваўся польскі афіцэр Астралецкі, які яшчэ нядаўна састаяў на службе ў царскім войску. Франбрэннік жа не хто іншы, як маршалак дацкага караля Фарэнсбек, які ў свой час наймаўся на службу да Івана IV, а затым перакінуўся на бок праціўніка.

Здагадваючыся, з кім мае справу, шматвопытны І.Шуйскі не спяшаўся пацікавіцца, колькі ж казны прыслаў будучы перабежчык, тым больш без сведкаў. Дарэчы, менавіта апошняя просьба не магла не насцярожыць яго. Відаць, князь западозрыў, што "куфэрак той з падманам", і загадаў паклікаць майстроў, якія разумеюць у механіцы. Яны з пэўнай асцярожнасцю аднеслі куфэрак далей, у бязлюднае месца, умела адчынілі яго і ўбачылі, што "ён дапаўна напоўнены: 24 зараджаныя самапалы глядзелі на ўсе чатыры бакі, зверху было насыпана з пуд пораху, узведзеныя ж замкі самапалаў былі злучаны з замком куфэрка... Варта толькі дакрануцца да яго, як спускаліся куркі ўзведзеных самапалаў, высякаючы агонь і падпальваючы порах".

Хітра задуманы замах не атрымаўся, і асада горада прадаўжалася. Але нядоўга — 17 студзеня праз польска-літоўскі лагер адкрыта і бязбоязна праехаў баярскі сын Аляксандр Хрушчоў і, уручыўшы Шуйскім царския граматы, расказаў пра апошнія падзеі. Аказалася, пяць дзён назад у вёсцы Ківерава Гара адбыліся перагаворы паміж пасланнікамі Івана IV і Стэфана Баторыя, якія завяршыліся 15 студзеня падпісаннем перамір'я на 10 гадоў.

Усё, аб чым расказана манахам Васіліем і пацверджана польскімі хронікамі, выклікае двайстае ўражанне. З аднаго боку, нейк не верыцца, каб у XVI стагоддзі, ды яшчэ ў палявых умовах, зрабілі такую хітрамудрую "пякельную машыну". А з другога — калі чаму і здзіўляцца, дык толькі таму, што зрабілі яе вельмі хутка. Майстры таго часу ўмелі ствараць рэчы куды больш складаныя.

Што датычыцца самой ідэі "ўдару ў мозг арміі" (або ўрада) варожай дзяржавы, то яна старая, як гісторыя войнаў. Дастаткова ўспомніць тое, што здарылася з біблейскім Самсонам... Дарэчы, падобны прыём знайшоў пераймальнікаў і ў пазнейшыя часы, пра што сведчыць гісторыя сусветных войнаў.

## АМАЛЬ АНЕКДОТ

Ужо ў пачатку першай сусветнай вайны прапагандысты пастараліся прадставіць кіраўнікоў варожых бакоў як людзей, якія маюць вельмі адмоўныя якасці. Напрыклад, у Расіі, Францыі і Англіі зачыншчыкам вайны аб'явілі крыважэрнага, разбэшчанага кайзера Вільгельма II, немцы і аўстра-венгры не менш цёмнымі фарбамі малявалі цара Мікалая II, французскага прэм'ера Пуанкарэ і англійскага Асквіта, а потым і змяніўшага яго Лойд-Джорджа. Хутка ва ўрады і ваенныя ведамствы хлынуў паток добраахвотнікаў, гатовых нават цаной жыцця пакончыць з персонай, якая ўвасабляе непрыяцеля. Іх усяляк уціхамірвалі, самых небяспечных змяшчалі пад тайны нагляд паліцыі. Растлумачвалася ж гэта толькі практычнымі меркаваннямі.

"Ухіленне імператара (Вільгельма II) магло паўплываць або не паўплываць на вядзенне вайны, — адзначаў англійскі пісьменнік Б.Ньюмэн. — Але, ва ўсякім разе, пасля гэтага нават найбольш па-пацыфісцку настроеныя немцы пераўтварыліся б у прыхільнікаў вайны". Дык для чаго ж павялічваць рады ворагаў? Гэта пытанне задавалі сабе не толькі ў Лондане, але і ў Берліне, тым больш што нямецкія ваенныя не раз давалі падставу для абвінавачвання Германіі ў парушэнні міжнародных норм вядзення баявых дзеянняў.

У 1917 г. у германскую стаўку прыйшло пісьмо нейкага Шлейхера, які прапанаваў дэтальна распрацаваны план замаху на Лойд-Джорджа. Яму пастараліся растлумачыць недарэчнасць падобнай ідэі, ды і немагчымасць яе выканання — засланыя ў Англію агенты-прафесіяналы, як правіла, правальваліся, а тут аматар... Затым Шлейхер напрасіўся на прыём і трапіў да спецыяліста па такіх справах — супрацоўніка разведвальнага ўпраўлення генеральнага штаба капітана Нэймана. Адкуль яму было ведаць, што на самай справе з ім размаўляе англійскі разведчык Ньюмэн, які выкарыстаў падабенства з палонным нямецкім афіцэрам, каб трапіць у святая святых нямецкай арміі!

Ньюмэн пісаў, што Шлейхер выклікаў няважнае ўражанне: гадоў 50, шчуплы, сарамлівы. "Штабіст" доўга пераконваў яго адмовіцца ад недарэчнай ідэі і нібыта дасягнуў поспеху. Аднак праз некалькі дзён Шлейхер напісаў, што едзе ў Англію, а дапамога яму сваяк, чыноўнік нямецкага консульства ў нейтральнай Швецыі.

У стаўцы перапалохаліся — калі яму ўдасца задуманае, то англічане непазбежна прасочаць маршрут Шлейхера і выйдуць на консульства, установу, як вядома, дзяржаўную. Тады — міжнародны скандал. Што рабіць? Папярэдзіць англічан праз нейтральныя краіны, Іспанію і Галандыю? Не, гэта будзе вельмі доўга. Сышліся на тым, што неабходна паслаць у Англію афіцэра, які асабіста ведаў Шлейхера і добра валодаў англійскай.

Ньюмэн захапляюча апісаў свой палёт над Паўночным морам на нямецкім бамбардзіроўшчыку, скачок з парашутам над Лонданам, візіт да начальніка вядомай установы на Скотланд-Ярд Б.Томаса. Той неадкладна загадаў павялічыць ахову прэм'ера, правярыць спісы прыехаўшых са Швецыі. Шлейхера сярод іх не было, аднак праз некалькі дзён на імя прэм'ера прыслалі атручаныя цыгарэты, прычым пасыльны сказаў, што адправіў іх шчуплы чалавечак гадоў пяцідзесяці...

Тым часам прэм'ер сабраўся на адпачынак у загарадную рэзідэнцыю. Што зрабіць? І тут Ньюмэн прыдумаў (да вайны ён выконваў ролі ў аматарскім тэатры): успомніўшы даўнія навыкі, ён загрыміраваўся пад Лойд-Джорджа і адправіўся на звычайную ранішнюю прагулку. Заўважыўшы наперадзе дрэва, Ньюмэн вырашыў заглянуць за ствол, ці няма там злачынца. У гэты ж момант Шлейхер саскочыў з галін і кінуўся на "Лойд-Джорджа" з кінжалам.

Малады, дужы Ньюмэн думаў лёгка справіцца з тэрарыстам, аднак, дзе там. "Левай рукой я схапіў яго за правую кісць і моцна сціснуў яе, — успамінаў Ньюмэн. — Але ён падскочыў у паветра і абхапіў другой рукою маё правае плячо. Адначасова абвіў мяне нагамі і пачаў біць з такой сілай і імклівасцю, якой я ніяк не мог уявіць". Адарваўшыся ад праціўніка, англічанін сустракаў яго моцнымі баксёрскімі ўдарамі, але Шлейхер кожны раз падхопліваўся, кідаўся ў бой, драпаўся, кусаўся. Толькі з дапамогай падаспеўшага ахоўніка Ньюмэн змог абясшкодзіць азвярэлага тэрарыста.

Медыкі прызналі Шлейхера псіхічна ненармальным і змясцілі ў адпаведную ўстанову. А прэм'ер-міністр даведаўся аб тым, што здарылася, пасля вайны, калі Ньюмэн апублікаваў успаміны пра тое, як ён, англійскі разведчык, дзейнічаючы па заданню германскага камандавання, тайком прабраўся на радзіму, каб выратаваць прэм'ер-міністра Вялікабрытаніі ад звар'яцелага нямецкага фанатыка...

("СМ")




Успаміны з Менску, Будслава, Вільні, Прагі, савецкай турмы

( Працяг. Пачатак у № 28 )

## У ВІЛЬНІ

У 1919 г. палякі акупуюць Заходнюю Беларусь. Ня гледзячы на шматабяцаючую адозву Пілсудзкага да жыхароў былага Вялікага Княства Літоўскага, у якой беларусам запэўняліся ўсе нацыянальныя свабоды й вольнасьці, палякі паступова прыступаюць да ліквідацыі беларускіх школ, як пачатковых, так і сярэдніх. Першай ахвярай пала Беларуская Гімназія ў Будславе, а затым — Беларуская Гімназія і Горадні й беларускія вучыцельскія сэмінарыі ў Барунах і Сьвіслачы. Даўжэйшы час толькі ўтрымоўваюцца беларускія гімназіі ў Вільні, Клецку, Радашкавічах і Навагрудку.

Ня ўсе вучні з масы моладзі з зачыненай беларускай гімназіі ў Будславе пагаджаюцца з прымусовым перарваньнем навукі. Многія з іх шукаюць прадаўжэньня навукі ў іншых сярэдніх школах. Некаторыя трапляюць у Віленскую Беларускую Гімназію ў 1920 г., а сярод іх і пішучы гэтыя радкі. Гімназія гэта тады была аднэй з вялікшых школаў у Вільні. Пад кіраўніцтвам дырэктара Кахановіча і такіх слаўных беларускіх людзей, як А.Луцкевіч, М.Гарэцкі, а. Адам Станкевіч, І.Краскоўскі й іншых, вучыцца ня толькі беларуская моладзь, але й вялікі працэнт жыдоўскай, якая глядзела на польскую акупацыю, як на нешта часовае, пераходнае. Беларусы-ж былі пэўны, што польская акупацыя будзе зьнесена ўжо хутка й што Вільня станецца другой сталіцай Беларусі. Пад кіраўніцтвам Ураду БНР, які быў тады ў саюзе з Летувай і знаходзіўся ў Коўне, яны рыхтаваліся да паўстаньня супраць палякаў, праводзячы па ўсім краі падпольную арганізацыю "Саюзу Вызваленьня Беларусі".

Уся акупаваная тэрыторыя была падзелена на раёны, на чале якіх стаялі камісары БНР і на мясцох арганізавалі сетку сяброў успомненага саюзу. У Вільні ў гэту работу былі ўцягнуты й старэйшыя грамадзяне, і вучні старэйшых клясаў з Беларускай Гімназіі, і слухачы беларускіх вучыцельскіх курсаў. Вялікую дапамогу ў працы нясьлі ўдзельнікі Слуцкага Паўстаньня, якія, пасьля ўпадку яго ў канцы 1920 г., невялічкімі групкамі траплялі ў Вільню й знаходзілі прыпынак у беларускую работу ў Базыльянскіх мурох.

У скляпох апошніх месьцілася тайная друкарня, якая выдавала нелегальныя адозвы й брашуры, а спрытная моладзь пашырала іх па ўсей Заходняй Беларусі й у Вільні, асабліва-ж сярод беларусаў, што трапілі ў польскае войска.

Кальпартаж сярод жаўнераў асабліва быў дагодным, калі яны цэлымі адзьдзеламі прыходзілі ў Сьвятадухаўскую царкву на багаслужбу. Тады вучнёўская моладзь увівалася паміж іх, як пчолы сярод вульлёў, а нехта з вышыні званіцы ветрам рассыпаў зьнянацку афішкі на галовы жаўнерскай масы, лучаючы на мамэнт, калі яна выходзіла з царквы. Роля гэтая найчасьцей прыпадала маладому случчаку Д-не.

Быў тады ў Вільні й асобны беларускі батальён, створаны на падставе паразуменьня беларускіх вайсковых кругоў з Пілсудзкім аб утварэньні асобнага беларускага войска, да арганізацыі якога прыступіла адумыслова створаная Беларуская Вайсковая Камісія. Палякі вельмі хутка прыпынілі рост беларускіх адзьдзелаў, аднак ня сьмелі яшчэ расфармоўваць тых, што існавалі. Батальён гэны браў удзел ува ўсіх беларускіх імпрэзах і жыў тымі-ж настроямі зьнясеньня польскай акупацыі. Пры такіх абставінах прышлося мне ў 1921 г. прыняць удзел у сьвяткаваньні 25-га Сакавіка ў Вільні.

Дзень 25-га Сакавіка быў вольны ад заняткаў як у гімназіі, так і ў існуючых тады васьмёх беларускіх пачатковых школах у Вільні і ува ўсіх беларускіх установах. Уся гімназія й школы, а таксама грамадзтва й беларускі батальён — праваслаўныя й каталікі, бяз розьніцы — каля дзесятай гадзіны раніцы накіроўваліся на ўрачыстую багаслужбу ў Сьвятадухаўскую праваслаўную царкву, якая была тады катэдральнай, выпаўняючы яе аж па берагі. Ужо сама царква гэта гаварыла аб славе Беларусі, бо пабудавана была ў чэсьць пераможнай бітвы з маскалямі пад Воршай у 1514 г. Урачыстую багаслужбу за Беларусь адпраўляў сам япіскап у асысьце сьвятароў, з якіх адзін сказаў узьнёслае патрыятычнае казаньне. На заканчэньне архірэйскі хор сьпяваў "Многая лета".

Пасьля багаслужбы ўсе ўдзельнікі выходзілі з царквы й затрымоўваліся на царкоўнай плошчы. Тут уфармоўваліся гімназія й пачатковыя школы, а таксама беларускі батальён, а за імі й маса грамадзтва й доўгім шнуром маршыравалі па вуліцах Вільні ў касьцёл сьв. Мікалая на беларускую каталіцкую багаслужбу. Абавязковы ўдзел у гэтай багаслужбе быў толькі для каталікоў, але нікому з праваслаўных ня прыходзіла ў галаву астацца ззаду ад уфармаванага маршу. Такім чынам па вуліцах Вільні адбывалася беларуская нацыянальная дэманстрацыя.

У касьцёле служыў ксёндз Адам Станкевіч з удзелам беларускага касьцельнага хору, які цудоўнай песьняй "Божа, што калісь народы" узварушваў да глыбіні душы кожнага беларуса. Казаньне айца Станкевіча, ведамага са свайго красамоўства, пакідала незабыўнае ўражаньне аб вялікім дні абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.

Па каталіцкай багаслужбе ўсе ў камплеце й узорным парадку вярталіся ў Базыльянскія муры, дзе месьцілася беларуская гімназія, у залі якой адбывалася ўрачыстая акадэмія. Галоўную ролю тут гуляла вучнёўская моладзь. Акадэмію адчыніў дырэктар гімназіі. Гаварыліся прывітаньні для моладзі й дзяцей ад розных беларускіх арганізацыяў і інстытуцыяў, а вучні ім адказвалі. Гімназіяльны хор сьпяваў беларускія песьні, перапляганыя дэклямацыямі сваіх сяброў. Урачысты й патрыятычны настрой дайшоў да свайго зэніту й закончыўся магутным гімнам "Не пагаснуць зоркі ў небе". Вучнёўскай моладзі абвяшчалася аб вечарыне на вечар і аб тым, што старэйшыя клясы могуць выслаць свае дэлегацыі на вялікі канцэрт у Беларускім Клюбе.

Беларускі Клюб месьціўся на Біскупскай вуліцы каля Катэдральнай плошчы. Займаў ён цэлы паверх вялікага дому й апрача некалькіх пакояў, меў вялікую канцэртную залю. Ужо тады ў Вільні назоў "Беларуская Хатка" выйшаў з моды. Лічылі, што назоў гэты здрабняў веліч беларускай інстытуцыі. Беларускі Клюб у Вільні быў рэпрэзэнтацыйнай арганізацыяй і для сваіх, і для чужынцаў. Там можна было спаткацца ў вольны вячэрні час з паважным беларускім грамадзтвам, прагледзіць рознамоўныя часопісы, знайсьці добрую кніжку, пачуць розныя навіны, паслухаць добры канцэрт ці пабачыць беларускую п'есу, пагуляць у більярд ці шахматы і ўрэшце выпіць і смачна зьесьці. Клюб гэты лічыўся добрым месцам ня толькі ў беларусаў, але і ў рознанацыянальнай віленскай інтэлігенцыі — польскай, летувіскай, расейскай ці нават жыдоўскай.

Зразумелая рэч, што ў дзень беларускага нацыянальнага сьвята ў Беларускім Клюбе адбывалася вялікая ўрачыстасьць з удзелам віленскай сьмятанкі.

Акадэмію адчыняў старшыня клюбу, прамаўлялі чаловыя беларускія дзеячы, за чым сыпаліся прывітаньні прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў: летувісаў, жыдоў, украінцаў і нават палякаў — звычайна прадстаўнікоў паступовых палітычных польскіх груп. Канцэртны адьдзел быў багаты й высокамастацкі. Рэй вадзілі ў ім знаныя нашыя артысты — сьв.пам.Францішак Аляхновіч, Пракулевічыха й сьпявачка Ганна Д., чаргуючыся з хорам дзядзькі Грыневіча.

Вечар канчаўся гучным банкетам, на якім беларускае грамадзтва прыймала сваіх прыяцеляў, прадстаўнікоў іншых народаў. Лік удзельнікаў тут ужо быў абмежаны спэцыяльнымі запросінамі й складчынамі, аднак ён далёка перавышаў сотню. Зразумелая рэч, што вучням на банкет нельга было дастацца, таму аб прабегу яго я нічога не магу сказаць. Разам з іншымі школьнымі сябрамі, мы трапілі яшчэ на заканчэньне вучнёўскай вечарыны, дзе аж да поўначы моладзь выбівала свае такты, памятаючы, што да наступнага нацыянальнага сьвята трэба будзе чакаць цэлы год.

Сьвяткаваньне 25-га Сакавіка ў Вільні пад польскай акупацыяй адбывалася з нязьменным уздымам штогод, ня гледзячы на стала ўзрастаючы ўціск з боку польскай улады. Мяняліся арганізацыйныя формы и людзі у сувязі з прымусовай ліквідацыяй беларускіх установаў, аднак лік удзельнікаў сьвяткаваньняў ня толькі не памяншаўся, але нават стала ўзрастаў. На месца пасаджаных у вастрог ці выгнаных з краю прыходзіла новая хваля людзей з палеткаў, займала месца выбыўшых і цягнула далей даўно распачатую справу, вялікую справу 25-га Сакавіка.

## У ПРАЗЕ

Нялічная беларуская эміграцыя, што, пасьля падзелу Беларусі акупантамі Рыскім трактатам, змушана была пакінуць родныя межы, шукала натхненьня, узмацаваньня сіл у Акце 25-га Сакавіка. Таму тым больш старанна й шчыра арганізавала сьвяткаваньне гэтага нацыянальнага сьвята незалежна ад таго, дзе яна знайшлася: у Коўне, у Бэрліне ці чэскай Празе. Глыбока ўрэзалася ў маю памяць сьвяткаваньне 25-га Сакавіка ў 1923 г. у Празе, дзе знайшоў сабе прыпынак урад БНР з прэзыдэнтам Крэчэўскім на чале, цэлы сьцяг выдатных беларускіх палітычных дзеячоў, якія ўтварылі Беларускую Нацыянальную Раду ў Празе. Да іх далучылася шматлікая беларуская студэнцкая грамада, бальшыня з якой прадстаўляла нешта нячуванае ў сьвеце: акадэмічную эміграцыю, г.зн. студэнтаў з-пад польскай акупацыі, перад якімі былі зачынены дзьверы польскіх унівэрсытэтаў, не выключаючы й краёвага — Віленскага, дзеля таго толькі, што яны не хацелі зрачыся сваей беларускай нацыянальнасьці.

Прага нуртавала тады буйным палітычным і культурным міжнародным жыцьцём. Сыйшліся там тысячы эмігрантаў з Савецкага Саюзу — расейцаў, украінцаў, беларусаў, каўказцаў, беларусы й украінцы з Польшчы ды маса студэнтаў з новапаўсталых балтыцкіх і прыдунайскіх дзяржаваў, якіх прыцягваў слаўны Праскі ўнівэрсытэт і вялізарная палітэхніка. Сярод паняволеных бальшавікамі нацыянальнасьцяў існавала салідарнасьць і поўнае ўзаемнае зразуменьне. І тут быў супольны праціўнік: расейская чарнасоценная эміграцыя, да якой у міжнародных імпрэзах далучаўся польскі голас. Таму, дзеля выяўленьня большай сілы, было створана аб'еднаньне студэнцкіх арганізацыяў Усходняй Эўропы, якое ў міжнародным студэнцкім жыцьці выступала адзіным фронтам і выдавала свой часапіс на французкай мове "L'Orient Lubre" (Вольны Усход). Усякая-ж нацыянальная імпрэза народнасьці, што была сябрам успомненага аб'еднаньня, падтрымоўвалася іншымі сябрамі — нацыянальнымі студэнцкімі арганізацыямі, дзеля ўзаемнага пазнаньня й салідарнасьці. Таму, калі, для прыкладу, беларусы арганізавалі сваё сьвята, то на яго йшлі, апрача сваіх, і ўкраінцы, і грузіны, і армяне ці іншыя каўказцы, а таксама прадстаўнікі летувісаў ці іншых балтаў і ўсе яны, цягнулі сваіх знаёмых чэхаў, славакаў, харватаў, славэнцаў, баўгараў і мадзяраў, уважаючы, што такім чынам робяць супольную справу ў барацьбе з расейскім імпэрыялізмам. Адносілася ўражаньне, што кожны сукцэс, кожная здобыча аднэй нацыянальнасьці — выклікала задаваленьне, радасьць у рэшце яе саюзьнікаў, як новы ўдар па расейскім імпэрыялізьме. Яго стараліся распрапагаваць як можна шырэй у міжнародным жыцьці. Ня было тады такой эгаістычна-шавіністычнай палітыкі ў паняволеных народаў, якую, на вялікі жаль, мы бачым сярод шматнацыянальнай цяперашняй эміграцыі.

Студэнцкае жыцьцё па-за ўнівэрсытэтам канцэнтравалася ў Празе ў студэнцкім доме. Там пераважна адбываліся ўсе зборышчы й імпрэзы. Там-жа адбылося й сьвяткаванне 25-га Сакавіка ў 1923 г. Ужо загадзя рыхтаваўся да яго беларускі студэнцкі хор, удзельнікам якога добрага чопаласу даваў дырыгэнт яго "вечны студэнт" кансэрваторыі Кізіма, якога амбіцыяй было, каб ягоны хор прынамся ня быў горшы за ўкраінскі, ці югаслявянскі. Ужо ад самага раньня вялікая студэнцкая заля была прыбрана бел-чырвона-белымі сьцягамі, а над традыцыйным надпісам на франтовай сьцяне "Ut unum omnes sunt" красавалася беларуская пагоня. З правага боку вісела карта Беларусі, якая сталася галоўным цэнтрам увагі студэнцкага натаўпу. Каля яе і пра яе там вялі гарачыя дыскусіі з беларусамі ня толькі расейцы, але й украінцы. Дыскусіі гэтыя выносіліся і ў іншыя пакоі й залі студэнцкага дому й навонак яго, так што Беларусь і яе межы сталіся тэмай дня ўва ўсім гэтым асяродзьдзі. Ніхто не спадзяваўся, што гэта карта зробіць такую вялікую рэкляму беларускаму сьвяткаваньню, не гаворачы ўжо пра прапаганду наагул. Таму, калі надыйшла пятая гадзіна — пачатак акадэміі, вялічэзная заля была набіта біткам шматнацыянальнай студэнцкай грамадой, сярод якой знаходзілася крыху й старэйшых людзей. Прывітаньні нашых прыяцеляў — украінцаў, грузінаў, армян, летувісаў і іншых — спатыкаліся бурай воплескаў. Найбольшае ўражаньне зрабіла высокамастацкае, поўнае паэзіі, прывітаньне грузінскага прадстаўніка Некашыдзэ, якое зачапляла найчулейшыя струны маладой студэнцкай душы. Рэфэрат аб Акце 25-га Сакавіка, хоць і даўгі, быў праслуханы ў скупленай цішы з вялікай увагай. Канцэртны адьдзел зрабіў фурор. Білі на біс хору, з песьняў якога найбольш спадабалася простая, але вельмі ўдала згарманізаваная беларуская народная песьня "Былі ў бацькі тры сыны", рэфрэн якой "ух, я" чуўся й пазьней яшчэ доўга па студэнцкім доме з вуснаў чужынцаў. Вельмі часта гэта "ух, я" ставалася нібы прывітаньнем калегі чужынца з беларусам пры штодзённым спатканьні. Але найбольшай атракцыяй былі салёвыя нумары спадарыні М., якая мела арыгінальны й прыгожы голас, удасканальваны ўсьцяж студыямі ў Праскай кансэрваторыі; ей проста не давалі сыйсьці з падмосткаў, выклікаючы некалькі разоў на біс. Сапраўдная навальніца, аднак, разьвярнулася пасьля акадэміі. Кожны беларус быў фармальна атакаваны пытаньнямі ды спрэчкамі на тэму Беларусі гэтай шматмоўнай студэнцкай масай. Публіка фактычна не рызыйшлася, а разьбіўшыся на грамадкі каля таго ці іншага беларуса, разбрылася па ўсіх закутках студэнцкага дому й вельмі заўзята дыскутавала, пакуль пазваляў час. Справа ў тым, што а гадзіне восьмай меў адбыцца беларускі канцэрт для чэскай публікі ў найбольш рэпрэзэнтацыйным памешканьні ў Празе "Obecny'm Dum'ie".

Канцэрт гэты быў сарганізаваны прафэсарам Чэскага ўнівэрсытэту Аўгенам Ляцкім у паразуменьні з чэскімі коламі й Беларускай Радай у Празе. Там звычайна зьбіралася самая праская сьмятанка. Такі публічны беларускі выступ быў фактычна тут першым і таму загадзя выклікаў нэрвовае напружаньне ў удзельнікаў. Канцэрт адчыніў уступным словам прафэсар Ляцкі. Беларускае грамадзтва аб ім мала што ведае, таму мы тут удзелім яму пару слоў. Ен быў прафэсарам расейскай літаратуры, высока цэненым у літаратурных колах, спэцыялістым па творчасьці Ганчарова, Л.Талстога й Дастаеўскага, аб якіх напісаў некалькі кніг. Прафэсар Ляцкі лічыў сябе беларусам і на праскім грунце ўзяўся за паважныя студыі творчасьці Купалы, Коласа й Багдановіча. Вынікам гэтага былі ягоныя артыкулы аб гэтых трох паэтах у паважных эўрапэйскіх літаратурных часапісах на французкай, а найбольш італьянскай мове. Такім чынам праф.Ляцкі быў бадай што першым літаратурным крытыкам, што пачаў знаёміць заходні літаратурны свет з беларускай літаратурай.

Праф.Ляцкі ў сваей уступнай прамове пазнаёміў паважную чэскую публіку з Беларусяй і яе нацыянальным адраджэньнем. Ен дасл оўна назваў "папуасамі" ўсіх тых, што ня хочуць прызнаць беларусаў за самастойны, асобны народ. Пасьля яго прамаўляў старшыня Рады БНР сьв.пам.Пётра Крэчэўскі аб Акце 25-га Сакавіка і яго значэньні для беларусаў і славянства. Беларускія народныя песьні, выкананыя студэнцкім хорам і тут спаткаліся з вялікім сукцэсам, хоць апошні й не выяўляўся так спантанічна, як у студэнцкім доме. Салёвыя нумары спадарыні М. зачаравалі публіку мэлянхоліяй беларускай мэлёдыі, якую чула яна першы раз. З водклікаў чэскай прэсы аб беларускім канцэрце было відаць захапленьне асаблівасьцямі й арыгінальнасьцяй беларускай песьні, якімі яна адрозьнівалася ад песьняў іншых славянскіх народаў.

Сьвяткаваньне 25-га Сакавіка ў Празе нарабіла многа гоману й сярод эміграцыйных кругоў і сярод чэхаў. Найбальш ударыла яно па расейцах, якія нічога ня ведалі аб беларускім вызвольным руху. Яны пачалі кампанію супраць беларускіх сэпаратыстаў. Неўзабаве сярод іх паўстала "Общество белоруссов і малороссов", якое паставіла сабе за мэту змаганьне з беларускім і ўкраінскім сэпаратызмам.

Як бачым, сьвяткаваньнем нацыянальнага сьвята, калі яно адпаведна зарганізавана, мы можам асягнуць ня толькі сваю прыемнасьць, але й робім вялікую прапагандную беларускую работу.

## У САВЕЦКАЙ ТУРМЕ

Дзьверы камэры раптам адчыніліся, вартаўнікі ўкінулі, як калоду, чалавечае цела й зьніклі за зьвяканьнем замка й ключоў. Напалоханая цішыня зноў разьлеглася на воддых, хоць праз прамугі закратаваных і заслоненых вакон пачала ўжо пырскаць сакавіковая раніца, кідаючы шэры водблеск на затхлую ад людзкога згушчэньня камэру і вырысоўваючы па куткох панурыя кантуры вязьняў, што тарчэлі з покату целаў. І яны былі спавітыя начной цішынёй і змогай лёсу, хоць фактычна й ня спалі, бо чакалі, калі прыйдзе іх чарга на роскаш ляжаньня на тым малым лапіку турэмнай падлогі, які на дзьве гадзіны займалі іх сябры.

Кінутае цела глуха шлёпнула па сьпячых на падлозе і лягло на іх нярухома, як-бы прыклеілася. Здавалася, што ўсе яны ўжо трупы: і тыя, што моцна спалі, трымаючы на сабе няпрашанае цела, і нават тыя, што стоячы ці седзячы чакалі на сваю чаргу ляжаньня. Так было ўсё зможанае, застылае, нярухомае ў гэтай несамавітай цішыні зьбітай людзкой масы.

Але вось, як глухі водгалас, як гукавы цень пачуўся стогн — "вады"... І хоць ён быў так ціхі, так мала чутны й прыкметны — заварушыў кантурамі стоячых і ляжачых, яны пачалі прыбліжацца да ўкінутага цела, абступілі яго, знайшлі для яго месца, палажылі на звольненым куску падлогі і нават пад галаву палажыць нешта знайшлі.

— "Пі-іць..." — праскрыпелі зноў сасьмяглыя і выкрыўленыя ад болю вусны. Гэты стогн-скрып падзеіў мацней ад усякага загаду. Адразу знайшлася конаўка, прайшла праз ланцуг рук і ўвачавідкі апынулася пры вуснах стогнучага. Ен пацягнуў некалькі глыткоў і пачаў ачуньваць. Яго падбітыя вочы абвілі поглядам стоячых кругом сяброў, як-бы шукаючы на кім спыніцца, а твар, хоць зьбіты і акрываўлены, пачаў набіраць азнак жыцьця. Гэта быў беларускі вучыцель Кастусь В. Палякі выкінулі яго ў сваім часе са школы, і ён праз доўгія гады нідзе ня мог знайсьці сабе месца. А як прыйшлі бальшавікі, дык арыштавалі яго аднаго з першых і вось цяпер мучылі на допытах.

Што ён быў зьбіты да паўсьмерці — нікога ня дзівіла. Прайшло ўжо трое сутак, як яго былі забраўшы з камэры. Яго катавалі і ў карцары, і ў часе допытаў. Так паступалі "сьледавацелі" з кожным вязьнем, якога бралі на допыт. Такія ўжо парадкі былі ў Вялейскай турме, якая тады месьціла ў сваіх мурох больш 1000 людзей.

Там, дзе за польскіх часоў саджалі 20 вязьняў, цяпер іх было 60 або й 80. Гэта быў сакавік 1940 году, калі НКВД у "асвабоджанай" Заходняй Беларусі распасьцерла сваё панаваньне над усімі людзьмі і стрыгла іх безапэляцыйна пад сваю машынку, падцягваючы розныя катэгорыі пад адпаведны нумар. Адных забралі ўжо зараз пасьля прыходу й даўно згладзілі са сьвету, як найбольш небясьпечных. Другіх з гэтай катэгорыі трымалі жывымі ў сваіх мучэльнях толькі дзеля таго, што спадзяваліся павялічыць далейшы лік ахвяр. Трэціх, хоць нічым непавінных, трэба было ізаляваць, бо гэта былі людзі думаючыя — інтэлігенцыя з асьветай, або мясцовы вясковы ці гарадзкі актыў.

Яны сваім здаровым розумам і разважаньнямі маглі ўплываць на акружэньне й ужо дзеля гэтага іх трэба было ізаляваць. Яны звычайна мусілі пасядзець з год у турме, прайсьці сэрыю допытаў, а пазьней "тройка НКВД" засуджвала іх на павольнае кананьне пры цяжкіх работах у савецкіх лягерох. Да гэтай катэгорыі далучалі таксама ўсіх тых, хто быў на службе цывільнай ці вайсковай пры палякох. Апрача таго трэба-ж было набраць на розныя лягерныя прадпрыемствы і "спецперасяленцаў". Усю тут пералічаную масу людзей мусіла перапусьціць машына савецкай чысткі, гэта была першая перадумова прылучэньня новай краіны да савецкага "раю". Дык нічога дзіўнага, што ўсе турмы былі перапоўненыя да адказу. У камэрах ня толькі ня было месца ўсім дзе легчы, але й сесьці на падлозе ня было дзе, а спаць прыходзілася па чарзе.

(ПРАЦЯГ БУДЗЕ).



## Умовы завочнага клуба знаёмстваў

Разам з пісьмом у рэдакцыю неабходна даслаць квітанцыю аб аплаце: за кожны адрас зацікавіўшага вас абанента або ліст да яго — 5 рублёў. Калі вы хочаце ўбачыць надрукаваным у "Перапісцы" толькі свой адрас — 15 рублёў. За пісьмо, змешчанае ў рубрыцы знаёмстваў,— 50 рублёў.

Грошы пералічваюцца на разліковы рахунак "Чырвонай змены" № 345480 (код 811) у Беларускім прамыслова-інавацыйным банку г.Мінска, за межамі рэспублікі — № 811161700 у Гарупраўленні Дзяржбанка г.Мінска МФО 400417, абавязкова з паметкай "Перапіска" (гэта можна зрабіць у любым паштовым аддзяленні або ў ашчадным банку).

Рэдакцыя прадстаўляе льготы ваеннаслужачым. Яны могуць уносіць або не ўносіць плату па ўласнаму жаданню. Але друкуюцца ў першую чаргу лісты, да якіх прыкладзена квітанцыя. Ільготы таксама будуць распаўсюджвацца і на нашых падпісчыкаў на наступны год. Калі разам са сваім пісьмом яны пакладуць у канверт копію квітанцыі на падпіску на "Чырвоную змену", іх лісты будуць змешчаны бясплатна.

Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць тэксты пісьмаў пры падрыхтоўцы да друку. Пісьмы без зваротнага адраса друкавацца не будуць.

* * *

Добры дзень, дарагая рэдакцыя!

Мне 34 гады, рост 170. Маю сярэднюю спецыяльную адукацыю, працую будаўніком, жыллём забяспечаны, быў жанаты.

Жадаю пазнаёміцца з жанчынай, не старэйшай за 30-33 гады, можна з дзіцем, якая б згадзілася на пераезд да мяне ў вёску.

*Мой адрас: 223824, Мінская вобл., Любанскі раён, Яменскі с/с, в.Трайчаны. Пшуку Ул. Ул.*

* * *

Мяне завуць Марына. Мне 14 гадоў. Вучуся няадрэнна. Займаюся спортам. Збіраю каляндарыкі, маркі і значкі. Вельмі хочацца перапісвацца з хлопчыкамі і дзяўчынкамі, старэйшымі за 15 гадоў.

*Мой адрас: 225353, Брэсцкая вобл., Баранавіцкі раён, п/а Уцёс, в.Кадычыцы, д.12. Тамашэўскай Марыне.*

* * *

180/70/25. Вясёлы, жыццярадасны, без шкодных звычак, ураўнаважаны, спартыўнага целаскладу, да спіртнога абыякавы. Зараз знаходжуся ў месцах пазбаўлення волі. Да канца тэрміну засталося 10 месяцаў. Хачу пазнаёміцца (для стварэння сям'і) з дзяўчынай ад 23 да 28 гадоў (можна з дзіцем), не схільнай да п'янаты. Пажадана, каб яна была забяспечана як жыллём, так і матэрыяльна. У людзях цаню вернасць, пастойлівасць і сціпласць. Дзеля забавы прашу не пісаць. Адкажу на ўсе лісты, пажадана з фотаздымкам. Вярнуць фота гарантую.

*Мой адрас: 213410, Магілёўская вобл., г.Горкі, УЖ 15/9-8. Кірыенку Васілю.*

* * *

Добры дзень, "Чырвоная змена!"

Багата часу разважаў, ці будзе дарэчы мая аб'ява (у асноўным вы друкуеце "шлюбныя" аб'явы). Але пасля таго, як вы надрукавалі ліст калекцыянера паштовак з Расеі і гомельскага народна-франтаўца Марка, вырашыў напісаць. Надрукуйце вось якую аб'яву. Збіраю нефармальныя дэмакратычныя газеты (1988-1992 гг), выдадзеныя БНФ, іншымі дэмакратычнымі арганізацыямі і асобамі, а таксама ўлёткі ўсіх палітычных напрамкаў (таго ж перыяду). Дасылайце лісты з прапановамі. Маю абменны фонд, магчыма аплата (па дамоўленасці). Запрашаю адгукнуцца калекцыянераў-аднадумцаў і ўдзельнікаў дэмакратычнага руху з усіх куткоў Беларусі.

*Генадзь Барсук, сябар БНФ і "Талакі". 20 год.*

*Адрас: 246049, г.Гомель, вул. 60 год СССР, 11, кв. 152.*

* * *

Добры дзень, "Чырвоная змена!"

Пішуць вам хлопцы з маскоўскага клуба па перапісцы і знаёмствах. Наш клуб арганізаваны на творчых асновах з балгарскімі калегамі. Задача клуба — аб'яднаць усіх людзей з розных куткоў нашай краіны ў перапіску з людзьмі з замежжа, а таксама з людзьмі з СНД. Клуб таксама плануе выпускаць спецыяльнае перыядычнае выданне, дзе будуць размешчаны адрасы ўсіх жадаючых знайсці сяброў. Гэтае выданне будзе распаўсюджвацца пастаяннымі агентамі ў 80 краінах свету. Таму мы звяртаемся ў Ваша выданне з вялікай просьбай — змясціць нашу інфармацыю на старонках Вашай газеты:

"Маскоўскі міжнародны клуб, які мае перапіску ў многіх краінах свету, а таксама ў СНД, прапануе ўсім жадаючым, незалежна ад узросту, знайсці сяброў за мяжой і ў СНД, а таксама змясціць свае звесткі ў спецыяльным перыядычным выданні, якое распаўсюджваецца ў 80 краінах свету. Дзеля гэтага трэба напісаць пра сябе, даслаць фотаздымак, чысты канверт і 10 рублёў (усе грошы ідуць на паштовыя выдаткі). Той, хто жадае перапісвацца з людзьмі з СНД ці знайсці спадарожніка жыцця, атрымаюць адрасы, а звесткі пра тых, хто выказаў жаданне знайсці партнёра за мяжой, будуць перасланы ў Балгарыю, дзе яны ўносяцца ў банк даных і публікуюцца ў замежным друку.

Спадзяёмся, што вы выканаеце нашу просьбу і змесціце нашы звесткі і інфармацыю".

*Наш адрас: 127106, Масква, а/с № 23.*



**Вядучая "Перапіскі" Майя ШЭНДРЫК, т. 32-50-01.**

## КІНААФІША

### "НЕВЯРТАНЕЦ"



Новая каляровая мастацкая кінастужка з такой назвай створана рэжысёрам Сяргеем Снежкіным на кінастудыі "Ленфільм" паводле матываў аднайменнай аповесці Аляксандра Кабакова.

Яна распавядае пра падрыхтоўку ваеннага перавароту ў краіне.

Карціна задумвалася даўно, але выпуск яе зацягнуўся па прычынах своеасаблівых. Міністэрства абароны чамусьці не жадала забяспечыць здымачную групу неабходнай тэхнікай і зброяй, а рэжысёр ніяк не мог зразумець пазіцыю ваенных і публічна сароме́ў іх на кожным кроку.

Менш за ўсё хацелася б зараз іранізаваць наконт гэтага. Наіўным быў не адзін рэжысёр. Наіўнымі былі ўсе мы, хаця б нават таму, што чатыры гады назад успрынялі апублікаваную ў часопісе "Мастацтва кіно" аповесць Аляксандра Кабакова як даволі смелы бестселер – не больш. Не заўважаючы ў далейшым, як нашае жыццё пачало набліжацца да мадэлі, якую стварыў Кабакоў.

Праўда, за тры дні жніўня мінулага года на вуліцах нашых не пабудавалі "фільтрацыйныя пункты", не вялі туды строем пад дулам аўтамата жыхароў, не рубілі бездапаможных людзей шашкамі, не ездзілі грузавікі з лозунгамі "Даеш дэсіянізацыю Расіі!" і моцныя малойчыкі не адлоўлівалі іншародцаў, вызначаючы іх па форме вушэй... Але да гэтых страшных карцін, якія мы ўбачым у дынамічнай моцнай стужцы Сяргея Снежкіна, здаецца, адзін крок.

Галоўныя ролі выконваюць Юрый Кузняцоў, Надзея Жывадзёрава, Мікалай Яроменка-старэйшы, Юрый Оськін, Віктар Арыстаў, Сяргей Волкаў.

### "ГОД СПАКОЙНАГА СОНЦА"

Вытворчасць кінематаграфістаў Польшчы. Аўтар сцэнарыя і рэжысёр – Кшыштаф Занусі.

Гэты фільм вядомага польскага кінамайстра з поспехам прайшоў па ўсім свеце і на прэстыжным Венецыянскім кінафестывалі быў узнагароджаны галоўнай прэміяй.

...Скончылася другая сусветная вайна. Цяжка жывецца саракагадовай Эміліі разам з яе хворай маці. Муж Эміліі загінуў на фронце. Выпадковая сустрэча гераіні з амерыканскім ваеннаслужачым Норманам змяніла лёс жанчыны. Норман займаецца расследаваннем у Польшчы злачынстваў у гады вайны. Ён закахаўся ў Эмілію, але тая адчувае сябе звязанай нейкім абавязкам з загінуўшым мужам. Аднак дабрыня і далікатнасць амерыканца кранулі яе сэрца...

Гледачоў уразіць лёс галоўных герояў фільма, тым больш, што фінал ягоны нечаканы і драматычны.

Цудоўна выконваюць свае ролі ў карціне Скот Уілсан, Ежы Штур, Тадэвуш Брадзецкі і іншыя акцёры.

### "МОЙ ШАФЁР"

Гэты каляровы мастацкі фільм кінематаграфістаў ЗША адрозніваецца ад тых амерыканскіх стужак, якія ідуць у кінатэатрах рэспублікі. У ім няма жорсткіх боек, забойстваў, крыві... Гэта лёгкая кінакамедыя, гледзячы якую, можна пасмяяцца і адпачыць.

Гераіня карціны сімпатычная міс Кейсі (яе ролю выконвае Дзебра Форман) воляй акалічнасцей апынаецца адзінай жанчынай-шафёрам у аўтамабільнай фірме...

Дзяжурны рэдактар А. ПАЛЫНСКІ.

Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: ЦК ЛКСМБ
Выдавец: газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь"
Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Скарыны, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.

Газета набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро "ЧЗ".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.
Індэкс 63906. Тыраж 17 000.

Галоўны рэдактар Уладзімір БЕЛЬСКІ.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ: Алена АГІБАЛАВА, Сяргей БАЛЦЭВІЧ (адказны сакратар), Валерый ВАРАНЕЦКІ, Валерый ІВАНОЎ, Алег КАМІНСКІ (першы нам. гал. рэдактара), Віктар ЛЮКОВІЧ, Мікалай ЛАРКОВІЧ, Алесь МАСАРЭНКА, Станіслаў НІЧЫПАРОВІЧ, Алесь ПАЛЫНСКІ, Наталля ПЛЫТКЕВІЧ, Павел СІМАНАЎ (нам. гал. рэдактара), Алег СЛУКА, Кузьма ШАПЛЫКА.



Зак. № 29.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12